Выходзіць з 1932 года.




# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

29 ЛІСТАПАДА 2002 г. № 47/4181 КОШТ 328 РУБ.


**АНОНС!**

3 снежня "Літаратура і мастацтва" праводзіць "прамую лінію" з міністрам культуры Рэспублікі Беларусь Леанідам Паўлавічам Гулякам.

Свае пытанні вы можаце задаваць з 10.00 да 11.00 гадзін па тэлефоне 223-75-74, а таксама папярэдне дасылаць у рэдакцыю "ЛіМа".

*Іван КАПЫЛОВІЧ:*

**"Нельга не пагадзіцца з тымі, хто выказвае трывогу за сённяшні стан беларускай мовы..."**

3



*Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ:*

**"Зараз я займаюся радаводам маці Купалы. Хацелася б аднавіць сувязь пакаленняў".**

13, 15



ШЛЯХІ



# ПАН ТАДЭВУШ

***Час аддаць належнае памяці нашага земляка, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года, брыгаднага генерала арміі ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Тадэвуша Касцюшкі . У гэтым упэўніўся карэспандэнт "ЛіМа", наведаўшы яго радзіму.***




**I.**

**У дачыненні да сентэнцый, афарыстычных фармуліровак я стараюся кіравацца парадаю Камю: здараецца, яны нібы гром — грукат ёсць, а бляску няма. Гётэ раіў дзеля лепшага разумення паэта наведаць ягоную радзіму. Па мне, гэта тычыцца любога чалавека. Толькі ўсяму свой час. Збіраючыся ў Івацэвіцкі раён, на радзіму Тадэвуша Касцюшкі, я не цешыў сябе ілюзіямі, маўляў, змагу мацней усвядоміць, пераасэнсаваць велічнасць асобы знакамітага генерала і патрыёта праз два стагоддзі пасля яго нараджэння.**

**Не чакаў, што адчую ўплыў гэтай неардынарнай асобы на лёс землякоў. Пацвердзілі мой скепсіс і ў мясцовым краязнаўчым музеі, куды перад паездкаю патэлефанаваў, запытаўшыся ці ёсць які-небудзь помнік знакамітаму земляку:**

**— Ёсць валун з шыльдаю. Толькі яе чапляюць, калі хто прыязджае, бо адну ўжо ўкралі.**

**Не здзівіўся. (Высветлілася на месцы, што металічная дошка вісіць пастаянна, але гэта — копія. Ранейшую — з бронзы — выдзерлі і прадалі скупшчыкам.**

*Працяг на стар.* 4-5

ЮБІЛЕІ

# ДЗЕЦІ ЭЎТЭРПЫ

***Першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір РЫЛАТКА (на здымку) — прафесійны музыкант, колішні выхаванец, а цяпер яшчэ і педагог Беларускай акадэміі музыкі. Сёлета акадэмія адзначае свае 70.***

*Працяг тэмы на стар.* 11



## КОЛА ДЗЁН

**У адпаведнасці з Канстытуцыяй Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 22 лістапада сваім Указам назначыў выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў дваццаць чацвёртага склікання, якія будуць праведзены 2 сакавіка 2003 года.**

### ПАСЯДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Прайшло першае пасля прызначэння даты выбараў у мясцовыя Саветы пасяджэнне Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. На пасяджэнні было прынята некалькі пастаноў, якія сярод іншага тлумачаць выбарчае заканадаўства. Адна з пастаноў датычыцца вылучэння ў склад выбарчых камісій прадстаўнікоў палітычных партый. У камісіі могуць вылучацца толькі члены тых партый, якія былі пастаўлены на ўлік адпаведнымі выканаўчымі органамі да 22 лістапада 2003 года. Агульная сума расходаў на правядзенне выбараў павінна скласці крыху больш 10,5 млрд. рублёў.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Пасля ўдакладненняў праект Дзяржаўнага бюджэту 2003 года перададзены на разгляд сесіі дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. У наступным годзе расходы на адукацыю прадугледжваюцца ў памеры 2 трл. 297,1 млрд. рублёў (гэта 148,9 працэнта ад сёлетняга ўзроўню), ахову здароўя — 1 трл. 703,1 млрд. (138,5 працэнта), культуру, мастацтва і кінематаграфію — 162,2 млрд. (143,7 працэнта).

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Нацыянальны банк нашай краіны выконвае дзве асноўныя функцыі: па стварэнні золатавалютных рэзерваў, у тым ліку залатога запасу, і функцыю па арганізацыі эфектыўнага кіравання золатавалютнымі рэзервамі. Адным з вынікаў гэтай дзейнасці стала стварэнне ў перыяд з чэрвеня 1998 года па чэрвень 2002 года запасу каштоўных металаў у памеры 10 тон 295 кілаграмаў 744 грамаў у залатым эквіваленце. У гэтым запасе 77 працэнтаў складае золата, 20 працэнтаў — плаціна, і 3 працэнты — серабро. Сёння ў структуры золатавалютных рэзерваў Нацыянальнага банка рэзервы каштоўных металаў складаюць каля 18,5 працэнта ў агульным кошыку рэзервовых валют. Міжнародная практыка сведчыць, што золата застаецца адной з важнейшых складаных інвестыцыйных партфеляў цэнтральных банкаў. Напрыклад, у ЗША ў золаце, сфарміравана 58 працэнтаў золатавалютных рэзерваў, у Германіі — 39, у Францыі — 50, у Італіі — 49, у Швейцарыі — 38 працэнтаў.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

200 мільёнаў долараў дазволіць зэканоміць кожны год пераход электрастанцый нашай краіны на драўлянае паліва. Ужо ў наступным годзе канцэрн "Белэнерга" пачне рэалізацыю праекта, які распрацаваны ў Аб'яднаным інстытуце энергетычных і ядзерных выпрабаванняў "Сосны" Нацыянальнай акадэміі навук. Першай цеплавой электрастанцыяй, якая будзе працаваць на дрэваапрацоўчых адкідах, стане Беларуская ГРЭС.

### ЗВЕСТКІ ТЫДНЯ

Паводле апошніх звестак, жыхары нашай сталіцы разлічваюцца за цяпло па расцэнках 7,3 долара за 1 Гкал. Сабекошт паслугі складае 9,6 долара. Словам, на сённяшні дзень насельніцтва аплачвае 76 працэнтаў сабекошту цяпла. Начальнік упраўлення энергетыкі і гарадской гаспадаркі Мінгарвыканкама адзначае, што падчас ацяпляльнага сезона тарыфы павышацца не будуць, але ў наступным годзе плануецца, што за цяпло мы ўсе будзем плаціць яго рэальны сабекошт.

### НЕАБХОДНАСЦЬ ТЫДНЯ

З 20 снежня 2002 года ў нашай краіне Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь уводзіцца ў абарачэнне новая купюра вартасцю 50000 рублёў узору 2000 года. 50-тысячны білет выраблены на спецыяльнай таніраванай паперы бірузовага колеру з ахоўнымі валокнамі, лакальным вадзяным знакам — выявай вежы Мірскага замка і ахоўнай ніццю. Памер купюры — 150х74 мм. Сюжэт асноўнай выявы правага боку банкноты — замак у гарадскім пасёлку Мір. Асноўны колер — цёмна-сіні і цёмна-бірузовы. На адваротным баку купюры — дэкаратыўны калаж з архітэктурных элементаў Мірскага замка (фрагменты кладкі крапасных сцен, флюгер плаца і вежы, галерэя замкавай сцяны, акно і г.д). Асноўныя колеры — бірузовы і цёмна-сіні. Неабходнасць увядзення купюры вартасцю 50000 рублёў спецыялісты Нацыянальнага банка РБ тлумачаць тым, што такім чынам будуць зніжаны затраты на апрацоўку і транспарціроўку грашовай наяўнасці.

### РАСПАРАДЖЭННЕ ТЫДНЯ

Рэспубліканскі фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі—2003" пройдзе ў верасні наступнага года ў Пружанскім раёне Брэсцкай вобласці. Распараджэнне аб гэтым падпісаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. У адпаведнасці з дакументам утвораны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю-кірмашу на чале з намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Папковым.

## ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА!

Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2003 года на "ЛіМ". Звяртаем вашу ўвагу, што на сённяшні дзень тыднёвік прадаецца не ва ўсіх кіёсках, таму лепей за ўсё падпісацца, каб потым не ездзіць па горадзе ў пошуках патрэбнага вам нумара газеты. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў, на паўгоддзе — 15000 рублёў.

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў, на паўгоддзе — 24000 рублёў.

**Ведамасны індэкс — 63857.**



**ФЭСТЫ**

***З 23 лістапада ў Мінску праходзіць IX Мінскі міжнародны кінафестываль "Лістапад—2002". На святочным адкрыцці ў Палацы Рэспублікі віцэ-прэм'ер РБ Уладзімір Дражын зазначыў, што "Лістапад" увайшоў у гісторыю Беларусі, а кіраўнік Дэпартамента дзяржаўнай падтрымкі кінематаграфіі РФ Сяргей Лазарук, даведаўшыся, што кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад" ператварыўся ў Мінскі міжнародны кінафестываль, нарэшце зразумеў, што "капец нам, бо ў Мінску з'явіліся амбіцыі" — ММКФ-2 (па назве адбылася аналогія з Маскоўскім міжнародным кінафестывалем).***

# ЗАЛАТОЕ ЛІСЦЕ ФІЛЬМАЎ

Здаецца, што гэтае супадзенне невыпадковае, бо па-ранейшаму праграму "Лістападу" складаюць у асноўным расійскія карціны (сёлета іх дзесяць). Хаця на адкрыцці кінафестывалю беларуская мова не гучала, затое на яго пачатку прайшло ўганараванне майстроў беларускага кінамастацтва: на сцэну выйшлі беларускія акцёры і рэжысёры, быў паказаны рэкламны ролік фільма "Легенда пра Анастасію Слуцкую" (актрыса Святлана Зелянкоўская, якая іграе Анастасію з'явілася на сцэне ў гістарычным касцюме), — кінапрысвячэнне нябожчыкам Міхаілу Пташуку, Юрыю Марухіну, Віктару Тураву...

Спецыяльны прыз Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За захоўванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве" быў прысуджаны народнаму артысту РБ Міхаілу Пташуку, які прыняла ўдава рэжысёра. Спецпрыз пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы "За талент, які збліжае сэрцы народаў" атрымаў акцёр Уладзімір Гасцюхін.

Святочнае закрыццё "Лістапада—2002" адбудзецца сёння а 17 гадзіне ў Палацы Рэспублікі. На жаль, карціна, якая прадстаўляла Беларусь, а гэта "Прыкаваны" Валерыя Рыбарава, не атрымае адзін з галоўных прызоў фестывалю — "Прыз сімпатый гледачоў", бо кінапубліка ацаніла карціну ў 7,92 балаў з 10 магчымых...

**В. Б.**

*НА ЗДЫМКУ: момант адкрыцця "Лістападу—2002".*

**ФОТА К. ДРОБАВА**

**КОНКУРС**

***Беларусы "захапілі" самае прэстыжнае міжнароднае спаборніцтва музыкаў-народнікаў "Кубак Поўначы": апошнім часам Гран-пры ды першыя прэміі ўручаліся нашым цымбалістам. Відавочны прагрэс гэтай галіны выканальніцтва (майстэрства музыкантаў ужо вымагае ўдасканалення тэхнічных магчымасцяў інструмента!) даў падставу зладкаваць у Мінску I Міжнародны конкурс імя І. Жыновіча для выканаўцаў на народных інструментах (двойчы праводзіўся як рэспубліканскі).***

# НОВЫЯ ЛІДЭРЫ

У журы, якое ўзначальваў прафесар М. Казінец, былі выдатныя артысты і педагогі Я. Гладкоў, М. Сеўрукоў, Г. Асмалоўская, іх украінскія калегі Т. Баран ды У. Бесфамільны і інш.

Маладыя спаборнікі — маладыя "балельшчыкі". Конкурс, удзельнікі якога, на думку спецыялістаў, вылучаліся высокім узроўнем прафесіяналізму, выклікаў вялікую цікавасць музычнай грамадскасці. З аншлагам прайшла цырымонія яго ўрачыстага закрыцця, ганаровымі гасцямі якой былі жонка і дачка І. Жыновіча. Выканаўцы на баяне і домры, балалайцы і мандаліне, цымбалах і акардэоне, а таксама іх канцэртмайстры атрымлівалі дыпломы, спецыяльныя прызы ад спонсараў, творчых і грамадскіх арганізацый. Узнагароджаны былі прадстаўнікі Расіі, Украіны. Ды самы важкі ўраджай лаўраў сабрала Беларусь. Лаўрэатамі першай прэміі названы нашы музыканты Аксана Хахол (цымбалы) ды Ігар Квашэвіч (акардэон). Другія прэміі ў беларускіх цымбалістак Юліі Кузьменкі ды Галіны Лазовік, трэцця — таксама ў прадстаўнікоў нашай краіны: баяніста Ягора Забелава ды цымбалісткі Алены Карпенкі. Сярод лаўрэатаў другой прэміі два расіяніны: балалаечнік Канстанцін Багданаў ды акардэаніст Сяргей Асокін.

Імя Сяргея Асокіна варта запомніць. Публіка ўсіх вітала горача. Аднак "тэмпература залы" не тое што падскоквала — нават зашкальвала, калі называлася гэтае імя. Сяргей Асокін быў, безумоўна, нефармальным лідэрам і ў канцэрце пераможцаў, дзе кожны выступаў з адным нумарам, вымушаны быў сыграць пяць твораў. Публіка, нібы загіпнатызаваная незвычайным, "засурдзіненым" гучаннем акардэона, нязмушанай музычнай артыстычнасцю, патрабавала новых "бісоў". І, каб не наступныя выступоўцы, Асокін мог наладзіць сольны канцэрт...

Маладыя музыканты пачынаюць новае жыццё: у статусе лаўрэатаў і дыпламантаў міжнароднага конкурсу.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**ФОТА К. ДРОБАВА**

**ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

# АЛЬБОМ ПРА РАДЗІМУ

***13 лістапада ў лекцыйнай зале Нацыянальнай бібліятэкі адбылася прэзентацыя фотаальбома Дзяніса Раманюка "Беларусь". Аўтар — сын вядомага даследчыка беларускай народнай культуры Міхася Раманюка, па праве лічыцца працягальнікам справы бацькі. Да таго ён і сам арыгінальны мастак і фотамайстар. Ёсць падставы гаварыць і пра яго ны талент арганізатара выдавецкай справы.***

Імпрэза сабрала шмат народу. Сярод прысутных мастакі, мэтры фатаграфіі, дызайнеры, літаратары, навукоўцы, журналісты — тыя, хто прафесійна працуюць над вобразам краіны і можа нават уплываць на яе аблічча. Як мае быць на прэзентацыі, аўтара віншавалі з творчым поспехам і выказвалі спадзяванне, што гэты твор не апошні.

Прынамсі, прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Міхал Баразна, гаварыў пра тое, што сёння нам вельмі бракуе такога роду выданняў. Беларусь у свеце мала ведаюць, а тая сувенірна-прэзентацыйная літаратура, што выходзіла за савецкім часам, скажона стварае вобраз Беларусі.

Альбом Дзяніса Раманюка менавіта сувенірна-рэпрэзентацыйны. У ім ёсць звесткі аб гісторыі, этнаграфіі, прыродзе і архітэктурных помніках. Беларусь у гэтым альбоме паўстане краінай, якая натуральна належыць да Еўропы, лёгка ўкладаецца ў гісторыка-культурніцкі кантэкст кантыненту. Альбом атрымаўся эстэтычна выразным і змястоўным.

**П. В.**

ТРЫБУНА ПІСЬМЕННІКА

# І Ў МЯНЕ ЁСЦЬ СВОЙ ЧЫТАЧ

Нельга не пагадзіцца з тымі, хто выказвае трывогу за сённяшні стан беларускай мовы. Асабіста я гэтую трывогу добра разумею і ўспрымаю, бо ў апошні час у нашым жыцці адбываюцца падзеі, якія не радуюць прыхільнікаў нацыянальнай культуры: кніжкі беларускіх літаратараў амаль не выдаюцца, а калі і выдаюцца, то мізэрнымі тыражамі. Прычыны ўсяго гэтага навідавоку: адна з іх — наш кніжны рынак запаланіла замежная, не лепшага гатунку, літаратура. Колькі ўжо аб гэтым вядуцца размовы, але, здаецца, пакуль нічога не мяняецца.

Звужваецца кола ўжывання беларускай мовы. Гэта відавочна. І калі аб гэтым гаворыш чыноўнікам, то ў адказ можна пачуць: так хоча народ, не будзем жа мы сілком прымушаць яго размаўляць па-беларуску. У сувязі з гэтым я згадваю ліст народнага пісьменніка Беларусі, усімі намі глыбока паважанага Івана Пятровіча Шамякіна да Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, які быў надрукаваны ў свой час у часопісе "Беларуская думка".

У гэтым лісце Іван Пятровіч зазначыў, што ні на рускай, ні на польскай ніхто з беларускіх пісьменнікаў шэдэўраў не створыць.

Звяртаў увагу ён і на тое, што рэферэндум 1996 года, у час якога народ меў магчымасць выказацца і па мове, не мог даць глыбокага, усебаковага і аб'ектыўнага адказу на пастаўленае пытанне, бо яно, гэтае пытанне, даволі тонкае, далікатнае. "Што ж мяне палохае сёння, пасля рэферэндуму? — разважае Іван Пятровіч. — Вялікі працэнт за наданне рускай мове статусу дзяржаўнай можа выклікаць такую высокую хвалю, цунамі русіфікацыі, якой не было ні да рэвалюцыі, ні ў 30—80 г.г. нашага стагоддзя. І хваля гэтая затопіць, змые беларускую мову. Па часці шарахання з аднаой крайнасці ў другую мы заўсёды былі адменныя майстры. І ў савецкі перыяд ЦК КПБ неаднойчы прытарможваў залішне заўзятых чыноўнікаў, якія хацелі паспяшыць працэс зліцця моў. І мова жыла. Літаратура жыла, тэатр, кіно. Наша, беларуская. Тыражы раманаў даходзілі да 50—60 тысяч экзэмпляраў. Цяпер 5—6 — Быкава, Шамякіна, Брыля, Чыгрынава".

Што ж магло стрымаць вал русіфікацыі? Мабыць, перш за ўсё, адзін кароткі Указ кіраўніка дзяржавы аб тым, што кожны, хто паступае на дзяржаўную службу, павінен добра ведаць і беларускую, і рускую мовы. Так, не трэба нікога ні пераконваць, ні махаць кулакамі, ды прымушаць вучыць тую ці іншую мову. Бо калі бацька ці дзед хочуць, каб іхнія дзеці ці ўнукі сталі настаўнікамі, урачамі, служылі ў райана, райфіне, банку, у міністэрстве і г.д., то яны абавязкова памяркоўна параяць ім вывучыць дзве дзяржаўныя мовы, а тыя, калі падрастуць, і самі ўсё цудоўна зразумеюць. Урэшце, такі вопыт ёсць у некаторых краінах. Напрыклад, менавіта такія парадкі наконт моў у Бельгіі, дзе раней таксама бушавалі страсці вакол гэтага пытання. Бушавалі, да таго часу, пакуль парламент гэтай краіны не прыняў закон, які абавязвае кожнага, хто пастурае на дзяржаўную службу, аднолькава ведаць дзве мовы: французскую і фламандскую.

На вялікі жаль, мы чамусьці марудзім, пусцілі гэтае пытанне на самацёк, і пакуль у нас ніякага пэўнага закона дасюль няма. Многія з нас, у тым ліку і чыноўнікі, забыліся, што на рэферэндуме пытанне ставілася, здаецца, так: аб наданні рускай мове роўных правоў з беларускай... Дык чаму тады нямала хто з чыноўнікаў сцвярджае, што нібыта ў нас усё робіцца ў гэтым пытанні так, як хочацца народу. З гэтым пагадзіцца цяжка. Нядаўна пачало працаваць агульнанацыянальнае тэлебачанне на першым канале. Літаральна ўсе перадачы вядуцца на адной, рускай мове. У нас жа, калі так, дзяржаўныя мовы дзве.

А сталічнае тэлебачанне? Там таксама не пачуеш жывога беларускага слова. Чаму?

На першым нацыянальным канале беларускага тэлебачання беларуская мова гучыць. Праўда, мова асобных дыктараў, рэпарцёраў не такая дасканалая як хацелася б. Складаецца ўражанне, што не ўсе супрацоўнікі гэтага канала як след ведаюць родную мову. У такім разе нічога не было б заганнага, каб зараз вучылі іх, калі не змаглі, як след, вывучыць у ВНУ. Апрача таго, рускамоўных перадач і на гэтым канале болей, чым беларускіх.



У сувязі з гэтым паўстае пытанне: ці ж не хапае тым, хто аддае перавагу рускай мове, расійскіх каналаў, якіх у нас болей, чым дастаткова? А на сваіх, нацыянальных каналах, здаецца мне, трэба весці ўсе перадачы на сваёй, роднай.

Канечне і аб моўнай праблеме, трэба было гаварыць разважліва, памяркоўна, не дзеля палітыканства, а дзеля справы і на нашым апошнім з'ездзе. Многім з нас, сапраўды неабыякавы лёс роднай мовы. Але ж, заўсёды, калі я бываю на пісьменніцкіх з'ездах, то бачу адных і тых жа выступоўцаў амаль па ўсіх пытаннях. Заўважу, раней нямала хто з іх слова супраць улады не вымаўляў, бо атрымліваў ад яе званні, узнагароды, лепшыя кватэры ў найпрэстыжных раёнах беларускай сталіцы, ганарары, якія мне, радавому пісьменніку, нават і не сніліся. Чаму ж маўчалі тады? Ужо тады беларуская мова знаходзілася ў не лепшым стане, але хто з іх услых і гучна аб гэтым гаварыў на з'ездах? Хіба што адзін Уладзімір Дамашэвіч. Зараз жа, калі ў іх няма ранейшых даброт і прывілей, дык крыўдуюць. Раней яны многа на што ўплывалі ў жыцці пісьменніцкага саюза, ды і многіх пісьменнікаў. Скажам, раней на Камітэт па Дзяржаўных прэміях вельмі ўплываў Саюз пісьменнікаў. Іншы раз складалася ўражанне, што прэміі дзяліліся па прынцыпе: сёння атрымаеш ты, а заўтра я... Хіба, скажам, Сцяпан Гаўрусёў пісаў слабую паэзію, каб стаць лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі? Або Юрась Свірка? Ды і многія іншыя паэты, празаікі, крытыкі? Ды вось чамусьці не вылучалі іх. (Хаця, вядома, многія нашы пісьменнікі атрымлівалі прэмію тую заслужана, за творчасць, не за выслужванне перад уладай). Іван Шамякін, Іван Пташнікаў (які расказваў мне, што атрымаў гэтую самую прэмію аж з пятага заходу), Іван Навуменка, Іван Мележ ды многія іншыя... Менавіта сваёй творчай працай, сваім сумленным і адданым служэннем Радзіме заслужылі яны высокія ўзнагароды і пачэсныя званні.

На XIV нечарговым з'ездзе вельмі часта гучала думка аб тым, каб Саюзу пісьменнікаў вярнулі Дом літаратара. Слухаў я тых, хто так хоча гэтага, і разважаў: а чаму вы забыліся пра тое, куды падзеўся наш Дом творчасці "Каралішчавічы"? І хіба ж Дом літаратара не знаходзіўся зусім нядаўна ў поўным распараджэнні Саюза пісьменнікаў? Усе ягоныя плошчы, як і паліклініка саюза, былі здадзены ў арэнду, але колькі бралі за тую арэнду, ніхто з пісьменнікаў ведаць не мог, бо калі рэвізійная камісія, якую ўзначальваў Генадзь Пашкоў, паспрабавала гэта праверыць, тагачаснае кіраўніцтва саюза, здаецца, зрабіла ўсё, каб гэтага не адбылося. Не дапусцілі, адным словам, рэвізійную камісію да праверкі. Чаму?..

Ішла на апошнім пісьменніцкім з'ездзе гаворка і пра часопісы, якія так нечакана да няспадзявана страцілі "дэмакраты". Яны да таго прывыклі, што гэта ўжо іх сфера ўплыву, і таму пагадзіцца з думкай аб страце перыядычнага друку назаўсёды ніяк не могуць. Урэшце, гэта іхняя справа, але я бачу ў такім ходзе падзей хоць нейкую ды справядлівасць. Чаму? Раней, калі б я ні прапанаваў ці то "ЛіМу", ці "Полымю" сваю рэч, нават тады, калі яе прымалі да друку, чаргі даводзілася чакаць невядома колькі. А ў той самы час, скажам, адзін і той жа пісьменнік паспяваў надрукавацца нават на працягу аднаго года некалькі разоў. Калі я аб гэтым гаварыў галоўнаму рэдактару, то заўсёды чуў у адказ: "Пішы так, як ён, то і цябе так будзем друкаваць..." Але ж я Іван Капыловіч, я пішу так, як я пішу, і ў мяне свой чытач, да ўсяго і мяне, як і таго калегу, ніхто не пазбаўляў грамадзянскіх правоў, а таму ў такім падыходзе рэдакцыі да мяне я бачу непрыкрытую несправядлівасць. Будзе вельмі дрэнна, калі такое і далей будзе працягвацца...

**Іван КАПЫЛОВІЧ**

ВОДГАЛАС

# НАСТАЛЬГІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

Не спрачаючыся з Уладзімірам Саламахам, нават больш — падтрымліваючы ягоны заклік паразумецца, — хочацца дадаць толькі адно: настальгія — з'ява распаўсюджаная, і "хваробай" гэтай — у добрым яе разуменні — "хварэюць" не толькі тыя, хто жыве далёка ад Радзімы, але, як ні дзіўна, і тыя, хто ніколі не з'язджаў з Беларусі (можа, толькі на які кароткі тэрмін — у камандзіроўку, напрыклад, або па якіх іншых справах). І "хварэюць" амаль што невылечна.

Уявіце толькі: беларус — паўнапраўны жыхар сваёй краіны — хварэе на настальгію... Па чым? Па сваіх няспраўджаных марах, надзеях? Па тым шчаслівым часе, калі тое забытае ці няспраўджанае шчасце здавалася птушкай, што даверліва села на твае далоні і, здавалася, ніколі ўжо не зляціць з іх?

Ды птушка — як і надзея — заўжды пудлівая — жыве па сваіх, часам не зразумелых законах, і прымусіць яе сядзець там, дзе нам хочацца, немагчыма: птушка шануе волю і ў адрозненне ад нас ніколі не пагодзіцца страціць яе. Мы, жывыя людзі, на вялікі жаль, сатканыя з супярэчнянняў, закладзеных у нас не толькі матухнай-прыродай, але і абставінамі, якія не заўсёды створаны намі (хаця й намі адначасова, бо ў любым выпадку з'яўляемся адзінкамі грамадства і самі ствараем тыя ўмовы, у якіх мусім існаваць), і гэтыя супярэчнасці, з аднаго боку, узбагачаюць нас, а, з другога, шкодзяць. Ды якая ж іншая істота, што кіруецца элементарнымі і жыццёва неабходнымі законамі захавання роду, пойдзе супраць гэтых не намі створаных законаў — супраць сябе самой?

Мы — "гома сапіенс" — трошкі перайначылі гэты закон, ператварыўшы яго ў таксама нібыта інстынкт захавання роду, але на іншым, так бы мовіць, не "птушыным" узроўні: мы баімся страціць сябе, сваю так дарагую нам жытку, баімся тых стасункаў, якія могуць — у сілу іх неадольнасці — паламаць нам жыццё — закрэсліць або ўвогуле знішчыць тую абалонку, у якой мы існуем.



Вось тут і нараджаецца настальгія — па тых кароткіх радасцях, якія ты некалі меў (і менавіта ў тыя моманты, калі сілок абставін яшчэ не накрыў цябе, ці калі яшчэ не было пільнай патрэбы накідваць на цябе той сілок), па тых часах, якія нібыта даўно адышлі ў нябыт і аднавіць якія не здаецца табе магчымым. Сапраўды — настальгія па няспраўджаным...

Але ж нешта яшчэ застаецца ў нас ад птушак: мы па-дзіваку верым, што некалі ўсё вернецца — што й мы прытулімся да чыіхсьці далоняў, сагрэемся каля іх, і паціху ўсё адродзіцца: і нашыя мары, і нашыя спадзяванні...

Ды — каб так сталася — патрэбны нейкія намаганні... А найперш — усведамленне таго, што тое, чаго мы прагнем, і ёсць насамрэч выратавальны інстынкт, інстынкт волі, да якога потым дадаецца ўсё астатняе: твае дзеянні, твае ўчынкі, твая спагада да тых, хто яшчэ не знайшоў у сабе сілы не паддавацца абставінам...

Ніхто не кажа, што гэта лёгкі шлях... Але ён, напэўна, адзіны: настальгія — не толькі паказальнік таго, што мы жывём — не ўсё чалавечае і птушынае страчана беззваротна, — гэта яшчэ і жыватворныя лекі... Адно што гэтымі лекамі трэба ўмець карыстацца.

**Анатоль КІРВЕЛЬ**
**г. Санкт-Пецярбург**

# ПАН ТАДЭВУШ



(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

**Яны сноўдаюцца па вёсках і не грэбуюць нічым, пачынаючы з электрычных правадоў і канчаючы старымі саганамі).**

**Не здзівіўся, калі ў Мінску з дваццаці апытаных, сярод якіх амаль палова аказаліся людзьмі з вышэйшай адукацыяй, большасць пра Касцюшку толькі "недзе чулі". Палова лічылі, што ён удзельнік паўстання 1863 года. І толькі адна настаўніца ўказала на 1794.**

**Не здзівіўся, бо й сам мала ведаў. Хаця пашанцавала яшчэ ў дзяцінстве. Не адзін раз зімовымі вечарамі, калі меней работы, чуў маміна:**

*На кракоўскім рынку*
*Там люду грамада:*
*Тадэуш Касцюшка*
*Дзісь пшысенга склада.*

**Мама сама запомніла вершык ад цёткі Анці, якая вучыла яго за польскім часам услых. Мяне ўражвала велічнасць, музычнасць твора і гэты невядомы герой. Пра Літву і Карону растлумачыў дзядуля, цытуючы Міцкевіча. Пра беларусаў гутаркі не было. Зразумела, мужыкі з простаю моваю. Так думалася да 17 гадоў.**

**Шляхціц Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, думаю, меркаваў падобна. Толькі і палякам сябе не лічыў. Ён пісаў: "Нарадзіўся я літвінам... і няшмат гадоў жыцця мне застаецца, а заслона яшчэ пакрывае будучы лёс маёй роднай зямлі і шматлікіх яе ўскраін".**

**... Падышла нагода для паездкі.**

**На думку некаторых даследчыкаў, а таксама аўтара гэтых радкоў, Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся 30 лістапада 1745 года. Распаўсюджанае меркаванне пра іншую дату зыходзіць з таго, што захавалася метрыка, паводле якой Касцюшку хрысцілі 12 лютага 1746 года ў косаўскім касцёле. Значыцца, сцвярджаюць паслядоўнікі польскага гісторыка Т. Корзана, які першым вылучыў гэту тэорыю, нарадзіўся Касцюшка 4 лютага. Але існуюць сур'ёзныя падставы для іншай версіі: спачатку яго хрысцілі ў праваслаўнай ці уніяцкай царкве і назвалі Андрэем у гонар апостала Андрэя Першазваннага, чыё свята прыпадае на 30 лістапада. На чым грунтуецца такое меркаванне? Па-першае, маці — Тэкля Ратамская — належала да праваслаўнага роду Ратамскіх. Другі вельмі істотны момант: свой ордэн Цынцынаці, атрыманы з рук самога Джорджа Вашынгтона, Касцюшка ахвяраваў вясковай уніяцкай царкве ў Люблінскім ваяводстве, якую наведвалі яго маці, сястра Ганна і сам Тадэвуш.**

*Біяграфічная даведка*

**РАДАВОД**

*Тадэвуш Касцюшка паходзіў з беларускага шляхецкага роду "Касцюшкі" герба "Рох ІІІ".*

*Бацька: Людвік Тадэвуш Касцюшка быў мечнікам Брэсцкага ваяводства і палкоўнікам войска ВКЛ, але ніколі ў арміі не служыў. У гістарычных крыніцах прозвішча Касцюшка сустракаецца з 1458 г.. К.Нясецкі (1628—1744 гг.), складальнік шляхецкага "Гербоўніка",сцвярджаў,што ў 1458 г. дробны шляхціц Фёдар Сяхновіцкі атрымаў ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра IV на вечныя правы маёнтак Сяхновічы. Сын Фёдара, Касцюшка (Канстанцін) Сяхновіцкі ў часы валадарання вялікага князя Аляксандра і ў першыя гады кіравання Сігізмунда І Старога служыў сакратаром у вялікакняскай канцылярыі. Сігізмунд І пацвердзіў ягоныя правы на сяхновіцкі маёнтак і дазволіў карыстацца гербам "Рох ІІІ". На думку К.Нясецкага, герб упершыню быў складзены менавіта для сяхновіцкіх уладальнікаў. Канстанцін з'яўляецца фактычным заснавальнікам роду: у яго гонар нашчадкі ўзялі прозвішча "Касцюшка". Продкі Андрэя Тадэвуша займалі даволі сціплае становішча: прадзед Аляксандр Іван быў падсудкам,а дзед Амброзій — пісарам у Брэсцкім земстве.*

*Маці: Тэкля Ратамская паходзіла з шляхецкага роду Ратамскіх. Прытрымлівалася праваслаўнага веравызнання. Ёсць звесткі, што Ратамскія разам з Агінскімі і іншымі праваслаўнымі Мінскага ваяводства ахвяравалі грошы на будаўніцтва ў Мінску на Верхнім рынку (цяпер плошча Свабоды) праваслаўнага сабора Пятра і Паўла.*

**II.**

**Ад Мінска да Косава крыху больш чым 200 кіламетраў. Косава не мястэчка, а горад, гарадок налічвае дзве з паловай тысячы месцічаў. Да Вялікай Айчыннай вайны было ажно сем, і мела Косава статус раённага цэнтра.**

**Упершыню прыгадваецца ў акце ад 11 чэрвеня 1494 года. Аляксандр Ягелончык падарыў мястэчка маршалку Яну Літавару Храптовічу. Паводле легенды назва з'явілася падчас мангола-татарскага панавання. Нібыта тут жыў збіральнік даніны для татарскага хана. Калі яе везлі, на пытанне "Куды едзеш!" адказвалі:"Да касога". Мелася на ўвазе раскосасць мангольскіх вачэй.**

**Татараў цяпер няма. Як і яўрэяў, хоць да вайны складалі большасць.**

**... Лістападаўская раніца. Шара, снег успрымаецца з'явай часоваю. Някідкая чалавечая мітусня. Мітусня людзей пешых. Машын мала. Болей ровараў. На калясцы чалавек вязе мяхі з пілавіннем. Пазнаёміліся, — пенсіянер Мікалай Міронавіч Казімір. Пілавінне, вядома, на подсціл.**

**— Ратуе свая гаспадарка, — кажа старшыня Івацэвіцкага раённага савета дэпутатаў Іван Мікалаевіч Чырко. — А маладзейшыя навучыліся ездзіць на заробкі ў Расію, Польшчу, на Украіну. Час неспакойны, рызыкуюць. А з работаю тут цяжкавата. Мэблевая фабрыка некалі славілася, чэргі па прадукцыю выстройваліся. Цяпер ні заказаў, ні працы людзям.**

**Зарабляюць на фабрыцы ў сярэднім па сорак тысяч. Працуе каля 300 чалавек. За які дзесятак гадоў колькасць рабочых зменшылася больш чым у тры разы.**

**Павел Рыгоравіч Папко таксама не адзін дзесятак гадоў тут прарабіў. Цяпер на пенсіі. Трымае двух свіней, карову і 30 (!) трусоў. Мяса для сябе ды ўнукаў. Вось толькі, наракаў, шкурак няма куды здаваць, прападаюць...**

**Як і належыць гораду, ёсць тут банк (ашчадная каса), бальніца на сто месцаў, кінатэатр (дзе ладзяцца і дыскатэкі), магазіны, вялікі універсам (другі паверх пустуе), недабудаваны фізкультурна-аздараўленчы комплекс, дзіцячы садок, школа. За савецкім часам пачалося будаўніцтва новай. Цягнецца дасюль, а дзятвы менее, таму плануецца там размясціць яшчэ і музычную школу з бібліятэкаю.**

*Біяграфічная даведка*

**АДУКАЦЫЯ**

*Пачатковую адукацыю Тадэвуш Касцюшка, як і большасць беднай шляхты, атрымаў дома, без настаўнікаў і гувернёраў.*

*1755—1760 — навучаецца ў школе манаскага ордэна піяраў у Любешаве Пінскага павета, дзе вывучаў лацінскую, польскую, нямецкую і французскую мовы, матэматыку;*

*1765 — 1766 — па пратэкцыі магнатаў Чартарыйскіх залічаны і вучыцца ў Варшаўскім кадэцкім корпусе — першай свецкай вучэбнай установе, заснаванай па ініцыятыве караля Станіслава Аўгуста. Займаецца фехтаваннем, вывучае ваенную тактыку, артылерыю, літаратуру, гісторыю, замежныя мовы, вышэйшую матэматыку, фізіку. Атрымаў афіцэрскі патэнт і званне харунжага, застаўся ў школе на пасадзе інструктара падбрыгадзіра.*

*1767—1768 — уваходзіць у склад супольні кадэтаў, якая займалася ваенна-інжынернымі дысцыплінамі.*

*1769 г.— у Парыжы бярэ прыватныя ўрокі па артылерыі, ваеннай і цывільнай архітэктуры, фартыфікацыі; наведвае каралеўскую Акадэмію жывапісу і скульптуры.*

**У косаўскім дзіцячым садку — крыху больш за 200 дашкалят, яшчэ тут месцяцца тры пачатковыя класы.**

**Некалькі хлапчукоў з ранцамі за спіною ідуць з заняткаў. Пытаюся:**

**— Хлопцы, а ці ведаеце Тадэвуша Касцюшку!**

**— Ага! — адказваюць у адзін голас.**

**— А хто ён — Касцюшка!**

**Маўчаць, разгублена лыпаючы вачыма. Мусіць падумалі, што цікаўлюся нейкім іншым Тадэвушам.**

**Тое ж пытанне задаў дзятве садкоўскай, якая якраз на вуліцы бавілася. Таксама маўчалі.**

**Прыгадалася вучоба будучага генерала ў кадэцкім корпусе. Яго называлі "шведам" з-за ўпартасці ў навуцы. Напрыклад, каб не праспаць, прывязваў да нагі вяроўку. У тры гадзіны раніцы вартаўнік цягнуў за яе, і хлопец прачынаўся. Пасля чаго яшчэ сунуў ногі ў халодную ваду.**

**Выхавацелька садка нібы апраўдвалася:**

**— Гэта малодшая група. Мы іх да каменя яшчэ не вадзілі...**

**Камень — гэта помнік земляку. Што да няведання, дык старшыня косаўскага гарадскога Савета Тамара Пятроўна Хінко, якая шмат што расказала і паказала, не хавалася:**

**— Калі я з Мастоў прыехала сюды ў 1972 годзе, пра Касцюшку ніхто і не заікаўся. Які герой!! Ён жа паляк, за Польшчу змагаўся. Толькі ў пачатку 90-х пачалі смялей гаварыць, і я стала цікавіцца ягоным лёсам.**



**Ад Тамары Пятроўны пачуў, здаецца, галоўнае ў характары і жыцці Тадэвуша Касцюшкі:**

**— Ён змагаўся за свабоду асобы. Любой нацыі. Беларусаў, літоўцаў, палякаў і нават неграў у Амерыцы.**

**Воля — вышэй усяго. У 1768 годзе на балі здаравенны і хамаваты ваявода Годскі папхнуў некага з кадэтаў, абазваўшы малакасосам. Той сціснуў кулакі, але не ведаў што рабіць. Усё ж ваявода. Тады капітан Касцюшка падышоў сам:**

**— Пан ваявода павінен папрасіць прабачэння ў майго калегі.**

**Напэўна, скончылася б двубоем, але ўмяшаўся сам кароль. Ваявода вымушаны быў прыніжацца перад кадэтам...**

**III.**

**Шпацыруючы па Косаве, пачынаеш баяцца, што свет спыніў сваё развіццё, дасягнуўшы старасці. Няма руху...**

**— Сяхновіцкія лічаць, што Касцюшка нарадзіўся ў іх. Там і маёнтак застаўся. Але большасць гісторыкаў сцвярджаюць: усё ж у маёнтку Марачоўшчызна.**

**Распавядае старшыня косаўскага гарсавета шчыра, з веданнем тэмы, з болем і клопатам.**

**Вось ён — беларускі помнік Тадэвушу Касцюшку. Можа й не трэба іншага — валун заўсёды лічыўся адным з сімвалаў Беларусі. Прыгадваю пра ўкрадзеную бронзавую шыльду. Прыгадваю і тое, што ў Злучаных Штатах Амерыкі ягоны помнік стаіць якраз насупраць Белага Дома. Ёсць нават горад, названы ў гонар героя. А з 1820-га цэлых тры гады палякі стваралі сімвалічны "курган Касцюшкі", які да гэтага часу ўзвышаецца над старажытнаю сталіцай...**

*Біяграфічная даведка*

**ГЕНЕРАЛ АМЕРЫКАНСКАЙ АРМІІ**

*Андрэй Тадэвуш падарожнічаў па Англіі, Італіі, Швейцарыі і Германіі. Вярнуўшыся дамоў, не знайшоў адпаведнай службы — войска пасля першага раздзелу Рэчы Паспалітай (1772) значна скарацілі.*

*Восенню 1775 года ён выехаў у Францыю, адтуль летам 1776 г. — у Амерыку, дзе ў гэты час пачалася вайна супраць англійскага каланіяльнага панавання. 18 кастрычніка залічаны ў амерыканскую армію ў званні палкоўніка. Вясной у якасці галоўнага ваеннага інжынера паўночнай арміі Касцюшка прымаў удзел у будаўніцтве фартыфікацыйных умацаванняў пад Саратогай. Перамога ў кастрычніку 1777 года была першым вялікім поспехам у барацьбе за незалежнасць. Імя Касцюшкі становіцца агульнавядомым у Амерыцы.*

*На працягу наступных двух гадоў кіруе будаўніцтвам цытадэлі ЗША ў Вест Поінце. Пазней тут была створана ваенная акадэмія, дзе ў 1830 г. у яго гонар устаноўлены помнік.*

*Неўзабаве Касцюшку прызначаюць галоўным інжынерам паўднёвай арміі пад кіраўніцтвам генерала Грына. Тут ён камандаваў і баявымі лінейнымі атрадамі, быў паранены. 13 кастрычніка 1783 г. Кангрэс ЗША надаў яму званне брыгаднага генерала, а будучы першы прэзідэнт дорыць пісталеты, пярсцёнак і шпагу з надпісам "Амерыка і Вашынгтон свайму сябру Т.Касцюшку". Касцюшку ўзнагародзілі ордэнам Цынцынаці, атрымаў ён амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію і зямельны надзел. Блізкім сябрам стаў аўтар Дэкларацыі аб незалежнасці Томас Джэферсан.*

**Валун, абгароджанае месца, дзе стаяў Касцюшкаў дом, недалёка рэшткі гаспадарчых пабудоў, з-за сасновых вяршалін выступае замак, пабудаваны ў мінулым стагоддзі. Цяпер яго велічнасць псуецца мноствам надпісаў на сценах. Замак збіралася рэстаўраваць нейкая расійская фірма, філіял якой месціцца ў Слоніме. Дакументы быццам ляжаць у Міністэрстве культуры. Але, кажуць, у фірмачоў імпэт сціх. Яны выкупілі калгасную ферму, завезлі абсталяванне, абнавілі статак. А пасля ніякіх дывідэндаў. Да сённяшняга дня судзяцца з калгасам. Навошта ім замак...**

**Рэстаўрацыя абыдзецца недзе ў сем мільёнаў даляраў.**

**— "Не пацягнеце вы" — казаў ім,— Іван Мікалаевіч Чырко, відаць па ўсім, адразу скептычна паставіўся да новых руска-беларусаў. — А так ніхто не супраць, навошта, каб такая прыгажосць прападала.**

**Не ведаю, як замак аднавіць, а пабудаваць драўляную хатку на месцы колішняй па сілах і беларускім уладам. Калі не раённым, дык абласным. Лесу хапае — амаль уся мясцовая вытворчасць на ім зацыклена. Патрэбна ініцыятыва, адказныя асобы. Сапраўды, брыдкавата і нагадваць пра такое. Тым болей параўноўваць з тым жа Домам-музеем Адама Міцкевіча ў Навагрудку, адбудаваным палякамі. Што, і цяпер да**

**іх звяртацца? А, можа, да амерыканцаў ці французаў? Іхнія амбасадары сюды наведваліся. Прыязджаюць здалёку нават турысты.**

*Біяграфічная даведка*

### НАЧАЛЬНІК ПАЎСТАННЯ

*У 1784 годзе Касцюшка вяртаецца на радзіму. Пяць гадоў вядзе гаспадарку ў Сяновічах. У 1789 г. у званні генерал-маёра прызываецца ў армію. 3 мая 1791 г. сеймам прымаецца Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, Касцюшка без ваганняў прысягае, нягледзячы, што яна прадугледжвала захаванне манархіі. За кампанію ў руска-польскай вайне 1792 г. узнагароджаны ордэнам "Віртуці мілітары" і атрымаў званне генерал-лейтэнанта. У знак пратэсту супраць змовы караля з Таргавіцкай канфедэрацыяй, што прывяло да раздзелу Рэчы Паспалітай, падае ў адстаўку. У Варшаве яго віталі натоўпы. Пра славу генерала Касцюшкі пісалі тады:" Усе дамы ўпрыгожаны ягонымі выявамі. Амаль усе носяць яго сілуэты на табакерках ці пярсцёнках". У гонар героя складаюцца вершы, песні, ладзяцца патрыятычныя маніфестацыі. А рэвалюцыйная Францыя прысвойвае яму, Вашынгтону, Песталоцці, Шылеру і другім вядомым сучаснікам званне ганаровага грамадзяніна рэспублікі. Папярэджаны аб магчымым арышце генерал выязджае за мяжу.*

*24 сакавіка 1794 г. у Кракаве пачалося паўстанне. Галоўнакамандуючым нацыянальнымі ўзброенымі сіламі — "вышэйшым і адзіным начальнікам узброеных сіл і кіраўніком усяго паўстання" — абвяшчаецца Тадэвуш Касцюшка. Народныя хваляванні ахопліваюць Варшаву, Вільню; атрымана некалькі ваенных перамог, выдадзены адозвы да грамадзян, да духавенства, да арміі і шмат іншых.*

*Невядома, чым бы яно скончылася, але 10 кастрычніка ў няўдалым для паўстанцаў баі пад Мацеёвіцамі Касцюшка быў цяжка паранены і ўзяты ў палон. На наступны дзень пад прозвішчам "шляхціца Шыманскага" з шматлікай аховай накіраваны ў Пецярбург. 10 снежня 1794 г. Касцюшка дастаўлены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. Ягоны арышт адмоўна паўплываў на ход усяго паўстання. Ужо 4 лістапада 1794 г. пад націскам арміі А. Суворава здаецца Варшава.*

**IV.**

**Смуга ў Косаве не знікала, яна не баялася сонца.**

**Самоту наганяў і роздум пра арышт Касцюшкі. Уяўлялася: вось падае з каня, які скапыціўся. Спрабуе застрэліцца, але пісталет дае асечку. Казакі, не ведаючы хто перад імі, пачынаюць рабаваць параненага, а карнет харкаўскага палка Лысенка б'е бяззбройнага шабляю па галаве, пасля чаго Касцюшка губляе прытомнасць. Казакі колюць пікамі. Жыццё ратуюць палонныя сябры па зброі, якія ў акрываўленым чалавеку ледзь пазналі свайго кіраўніка.**

**... Вось ён у Петрапаўлаўскай крэпасці. У вушах словы, пачутыя з натоўпу палонных: "Ну і дзе ж тая зямля, тыя дамы, тое шчаслівае жыццё, якое вы нам абяцалі? Знойдзем усё гэта ў Сібіры!" Генерал у роспачы, прыгнечаны, хоча змарыць сябе голадам.**

**Касцюшка больш ніколі не вяртаўся на радзіму. Пасля смерці Кацярыны II ужо на другі дзень Павел I цікавіцца ягоным здароўем у лейб-медыка, а праз дзевяць дзён наведвае яго з сынам Аляксандрам. Візіты становяцца частымі. Павел сімпатызаваў дзяржаўнаму злачынцу. Той пасля доўгіх роздумаў згаджаецца прысягнуць на вернасць самадзержцу пры ўмове, што будуць вызвалены арыштаваныя і сасланыя паўстанцы. Цар выдае указ 12 снежня 1796 года, паводле якога вызваляецца каля 20 тысяч паўстанцаў, у тым ліку 14 тысяч — з Сібіры. Сам Касцюшка, адмовіўшыся ад тысячы прыгонных, атрымаў 60 тысяч рублёў і дазвол выехаць у Амерыку, якую лічыў другою радзімай. Перад ад'ездам ён наведаў цара ў мундзіры генерала амерыканскай арміі. Царыца прыпаднесла герою вышыты ўласнымі рукамі кашалёк з векселем на тры тысячы дукатаў, такарны станок і каштоўны камень анікс з выявай царскай сям'і; папрасіла, каб з Амерыкі ён прыслаў насенне рэдкіх раслін. Касцюшка прэзентаваў Яе Вялікасці вытачаную ім табакерку, якая пасля была пры царыцы заўжды падчас каранацыйных урачыстасцяў.**

**Наведаў Амерыку. Ад'язджаючы, у сваім тастаменце на імя Томаса Джэферсана адзначыў, каб частку грошай накіравалі для выкупу і адукацыі неграў-рабоў. У 1826 годзе ў штаце Нью Джэрсі і была створана школа для дзяцей неграў, названая ягоным імем.**

**Францыя, куды прыехаў з Амерыкі, горача вітала свайго ганаравога грамадзяніна. Менавіта адтуль ён адпраўляе ліст Паўлу I, дзе заяўляе, што прысягаў пад прымусам і вяртае грошы, якія цар не прымае.**

**Летам 1799 года генерал Банапарт, прыбыўшы з Егіпта, адразу ж сустракаецца з Касцюшкам. Але пасля перавароту 18 брумера той назваў Напалеона магільшчыкам рэспублікі і адкрыта дэманстраваў свае непрыязныя адносіны.**



**Пасля разгрому Францыі ў 1814 годзе князь А.Чартарыскі — дарадца Аляксандра I — запэўнівае Касцюшку ў добразычлівасці цара да Рэчы Паспалітай. На прыёме ў Парыжы Аляксандр I з братам Канстанцінам выйшлі насустрач Касцюшку і, узяўшы яго пад рукі, вялі скрозь натоўп са словамі:"Дарогу! Дарогу вялікаму чалавеку!" Касцюшка і тут прасіў амністыі для ўсіх грамадзян Рэчы Паспалітай, што служылі Напалеону, а таксама поўнага вызвалення сялян на працягу 10 гадоў. Цвёрдай згоды генерал не атрымаў, на запрашэнне вярнуцца дамоў не згадзіўся і з'ехаў у Швейцарыю, дзе жыў да 15 кастрычніка 1817 года...**

**Вестка пра смерць кіраўніка паўстання выклікала жалобу ў Рэчы Паспалітай. Будучы прэзідэнт ЗША У. Гарысан ушанаваў ягоную памяць у Кангрэсе са словамі:"Касцюшка, пакутнік свабоды... Слава яго будзе жыць да таго часу, пакуль свабода будзе над светам". У 1818 г. прах генерала ўрачыста перавезены ў Вавель — каралеўскі замак у Кракаве. У 1895 г. урна з сэрцам перададзена ў Польскі нацыянальны музей.**

**...Гэтыя нататкі — не артыкул для падручніка гісторыі, таму мо і шмат біяграфічных фактаў. Чаму іх падаў? Бо многае даведаўся ўпершыню сам і, думалася, гэта стане цікава іншым. Хацелася шчыра падзяліцца...**

**А што змянілася ўнутры мяне? Стаў больш ведаць. Упэўніўся ў чарговы раз: правінцыі ў Беларусі аднаго кшталту. Упэўніўся, што на ніве служэння Бацькаўшчыне патрабуюцца і руплiўцы, і заможныя патрыёты.**

**Паўстанец, кампазітар Міхал Агінскі даўным даўно пісаў пра Касцюшку:"... карыстаўся вялікай пашанай усёй Еўропы..."**

**Настаў час заслужанай пашаны і на радзіме.**

**Міхал ТАЛОЧКА**
**Мінск — Косава.**

*НА ЗДЫМКАХ: герб Косава; Косаўскі палац; старшыня Косаўскага гарсавета Тамара ХІНКО, старшыня Івацэвіцкага райсавета Іван ЧЫРКО і карэспандэнт "ЛіМа" Міхал ТАЛОЧКА.*



## «ПОЛЫМЯ — 2003»

Часопіс "Полымя" ў першым паўгоддзі 2003 года прапануе новыя творы празаікаў, паэтаў, гісторыкаў, публіцыстаў, філосафаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў. Чытач пазнаёміцца з "Палымянскімі дэбютамі", з творчасцю замежных аўтараў, будуць больш шырока прадстаўлены пісьмы нашых чытачоў у рубрыцы "З рэдакцыйнай пошты".

З першага нумара мы пачынаем друкаваць раман Уладзіміра Гніламёдава, які, несумненна, будзе ўспрыняты з вялікай цікавасцю. Вось што сам аўтар распавёў пра новы твор:

"Я не прымхлівы, і ўжо не раз расказваў чытачам пра задумку напісаць хроніку беларускага лёсу ў XX стагоддзі. У яго аснове — аповед пра свой род і народ, пра Берасцейшчыну, дзе я нарадзіўся, пра Беларусь і ўвесь свет. Адзін з раманаў гэтай хронікі я ў свой час прапанаваў для часопіса "Полымя", і ў наступным годзе першая частка мае быць надрукаванай. Раман скончаны цалкам, назва — "Бежанцы".

Гаворка ідзе пра бежанцаў 1915 года, якія пры набліжэнні руска-нямецкага фронту (калі немцы ўзялі Варшаву), у прымусовым парадку, прыхапіўшы такі-сякі хатні скарб, падаліся большай часткай на Усход, у Расію.

Гэта, уласна кажучы, тэма купалаўскіх "Паязджанаў", якія, гнаныя лёсам, апынуліся ў вялікай няпэўнасці і ў рэжыме неакрэсленага хранатопу, шукаюць па свеце ратунку і прыстання.

Купала — касміст, нам такога не дадзена, хаця мы і пазіраем у яго бок, карыстаемся яго ўрокамі... Што тычыць маіх паязджанаў-бежанцаў, дык яны ў пошуках часовага прытулку трапілі ў Борскі павет Самарскай губерні — гэта, значыць, ажно за Волгу, у чапаеўскія мясціны, дзе потым і разыграюцца крутыя падзеі рэвалюцыі, Грамадзянскай вайны, шматлікіх паўстанняў і, нарэшце, вялікая засуха і голад 1920—1921 гадоў.

Усяго гэтага напоўніцу паспыталі і мае героі. Прабылі яны там не многа не мала — амаль сем гадоў і вярнуліся толькі летам 1922 года. Перабылі і вайну, і рэвалюцыі, і белачэхаў, і Калчака, і Сапажкова (быў там такі сялянскі правадыр), і яшчэ і яшчэ.

Чалавеку наканавана жыць і ён жыве — ці то вайна, ці рэвалюцыя, ці што іншае.

Жыве і нават радуецца жыццю, адгукаецца на яго голас...

У дзяцінстве, доўгімі зімовымі вечарамі, я заслухоўваўся ўспамінамі і апавяданнямі нашых вяскоўцаў, якія яны прывезлі з Расіі, але не думаў, што калісьці пра ўсё гэта мне давядзецца напісаць.

Раман "Бежанцы" складаецца з 5 частак:

1-я частка — "Усход"
2-я частка — "На вайне і ў тыле"
3-я частка — "1918"
4-я частка — "Новыя выпрабаванні".
5-я частка — "Дадому!"

Алесь Савіцкі прапануе чытачам раман "Пісьмо ў Рай".

Кім быў на гэтай зямлі? Што рабіў? Што пакінуў за плячыма... Спрабуючы адказаць на гэтыя пытанні — раней ці пазней, яны, вядома ж, паўстаюць перад кожным з нас! — Андрэй Смоліч, галоўны герой рамана "Пісьмо ў Рай", суадносіць сваё асабістае жыццё з жыццём роднай зямлі, з тым шляхам, што прайшлі людзі яго пакалення, апаленага страшэнным агнём ваеннай бяды.

Нялёгкія яны, гэтыя сакраментальныя пытанні. Але ж і не дужа лёгкія адказы на іх. Але ў адказах гэтых — існасць асобы, чалавека ўвогуле.

У першай палове 2003 года "Полымя" працягвае друкаваць "Начныя ўспаміны" Івана Шамякіна, будзе надрукаваны раман Леаніда Левановіча "Бесядзь цячэ ў акіян". Пабачаць свет аповеды Казіміра Камейшы "Паміж кубкам і вуснамі"; аповесці: Франца Сіўко "Угліс", Анатоля Кудласевіча "Пераход", Віктара Гардзея "Патоп на вясковых могілках". На старонках часопіса вы пазнаёміцеся з апавяданнямі Алега Ждана, Святланы Явар, Сяргея Сцяпана, Юрася Нератка, Валянціны Кадзетавай, Анатоля Кірвеля, Ягора Конева. Шырока прадстаўлена паэзія. З новымі вершамі выступяць: Віктар Шніп, Міхась Башлакоў, Святлана Варонік, Соф'я Шах, Зінаіда Дудзюк, Алег Салтук, Віктар Ярац, Валерыя Кустава, Мікола Шабовіч, Навум Гальпяровіч.

Зразумела, каб мець у асабістай бібліятэцы пералічаныя творы, неабходна падпісацца на "Полымя".

Падпісная цана
Індывідуальная (індэкс — 74985)
**на 1 месяц — 2500 рублёў,**
**на 3 месяцы — 7500 рублёў,**
**на 6 месяцаў — 15000 рублёў.**

Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 рублёў,**
**на 3 месяца — 10500 рублёў,**
**на 6 месяцаў — 21000 рублёў.**

**Віктар ПРАЎДЗІН,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Полымя"**

## ЗАПРАШАЕМ!

**5 снежня ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" (вул. Захарава, 19) пройдзе арганізацыйнае пасяджэнне літаб'яднання. Запрашаюцца маладыя паэты, празаікі, крытыкі. Пачатак у 17 гадзін. Тэлефон для даведак: 284-44-04.**

## ЛіМ-ЧАСАПІС

***Ідзе падпісная кампанія. Падчас яе, а гэта ўжо стала добрай традыцыяй, супрацоўнікі Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва", а дакладней, выданняў, якія тут выходзяць, праводзяць творчыя сустрэчы са сваімі патэнцыяльнымі чытачамі і падпісчыкамі.***

•

**Рэдактар часопіса "Маладосць" Раіса Баравікова і рэдактар штотыднёвіка "ЛіМ" Віктар Шніп былі гасцямі ў студэнтаў Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. Моладзі было цікава ўсё: і стан сучаснай літаратуры, і планы часопіса "Маладосць" і газеты "Літаратура і мастацтва" на будучы год, і, вядома ж, уласная творчасць гасцей. Вёў імпрэзу дацэнт БНТУ Васіль Шыбалка, які, дарэчы, нядаўна дэбютаваў у "ЛіМе" з нарысам.**

•

**Напрыканцы лістапада ў гімназіі № 56, што знаходзіцца ў Кастрычніцкім раёне сталіцы адбылася сустрэча гімназістаў 9—10 класаў з галоўным рэдактарам часопіса "Маладосць", пісьменніцай Раісай Баравіковай. Зразумела, гаворка вялася пра абноўленае выданне, пра творчыя задумы і планы рэдакцыйнага калектыву на наступны год, а галоўнае, пра тых аўтараў, якія, мяркуецца, надрукуюць свае новыя творы на часопісных старонках.**

**Згаданая гімназія — гэта асаблівы астравок, дзе заўжды шанавалася і шануецца роднае слова. Выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Алена Барысаўна Сіроціна, Ірына Уладзіміраўна Рабец, Святлана Вісільеўна Камушэнка, Наталля Мікалаеўна Асецкая, Маргарыта Чаславаўна Малочнікава ды Наталля Мікалаеўна Гірчыц змаглі прывіць вучням любоў да прыўкраснага пісьменства. За гэта ім вялікі дзякуй! Што да сустрэчы, дык яна заканчвалася вершамі вядомай паэткі і відавочнай цікавасцю гімназістаў да часопіса "Маладосць".**

•

**Адбылася творчая сустрэча супрацоўнікаў газеты "ЛіМ" Віктара Шніпа і Людмілы Рублеўскай з удзельнікамі літаб'яднання "Букет", якое дзейнічае ў Беларускім універсітэце культуры. Кіраўнік літаб'яднання — літаратуразнаўца Наталля Дзянісава. Госці пазнаёмілі прысутных не толькі з планамі на наступны год газеты "ЛіМ", але і з часопісамі, што выдаюцца Рэдакцыйна-выдавецкай установай "Літаратура і мастацтва". Падчас вечарыны гучалі паэзія і музыка. Дарэчы, напярэдадні сустрэчы "ЛіМ" адну са сваіх старонак аддаў творам "букетаўцаў".**

•

**Дзякуючы маладзечанскаму краязнаўцу Міхасю Казлоўскаму ў Маладзечне і ў раёне, а таксама на Смаргоншчыне ў школах і бібліятэках часта бываюць пісьменнікі. Нядаўна паэты Віктар Шніп і Людміла Рублеўская наведалі Турэц-Баярскую сярэднюю школу і Заскавіцкую базавую школу Маладзечанскага раёна. Для гасцей было прыемна даведацца, што многія старшакласнікі не толькі цікавяцца беларускай літаратурай, але і самі спрабуюць пісаць творы на роднай мове. У сваіх настаўніках вучні бачаць добрых дарадцаў і сустрэчы з пісьменнікамі ў Турэц-Баярскай і Заскавіцкай школах бываюць даволі часта. У школьных бібліятэках гэтых школ ёсць падшыўкі газеты "Літаратура і мастацтва", беларускія часопісы, а таксама кнігі з аўтографамі пісьменнікаў.**

**Н.К.**

## КРЫТЫКА

# «КРОК ЗА КРОКАМ ТУТ ЗБЛІЖАЮЦЦА МОВЫ...»

*Паэзія Алеся Разанава ў Германіі*

У гэтым годзе ў Германіі выйшлі адразу дзве паэтычныя кнігі Алеся Разанава. Як ужо паведамлялася ў лімаўскай нататцы У.Сакалоўскага (27. 09. 2002), абедзве кнігі – білінгвы; нямецкі чытач, такім чынам, атрымаў магчымасць пазнаёміцца з творчасцю беларускага паэта і ў перакладах на сваю мову, і ў арыгінале. Заўважу, што А.Разанаў чытацкай аўдыторыі Германіі дастаткова добра вядомы: у 1995 г. у берлінскім выдавецтве "Agora" ў перакладзе Эльке Эрб выйшла яго кніга "Zeichen vertikaler Zeit" ("Знакі вертыкальнага часу"). Кніга дае грунтоўнае ўяўленне пра творчасць А.Разанава, пра яго філасофска-эстэтычную эвалюцыю, бо месціць у сабе яго выбраныя паэмы, версэты і пункціры, напісаныя на працягу двух дзесяцігоддзяў – з 1974 па 1994 г. Апрача таго, творы А.Разанава друкаваліся на старонках многіх нямецкіх літаратурных і культуралагічных часопісаў.

Новыя кнігі выйшлі ў розных выдавецтвах: "Tanz mit den Schlangen" ("Танец з вужакамі"; пераклады Эльке Эрб і Уладзіміра Чапегі) – зноў у берлінскім выдавецтве "Agora", "Hannoversche Punktierungen" ("Гановерскія пункціры"; пераклад Оскара Анзуля) – у гановерскім выдавецтве "Revonnah". Апошняя з кніг мае і нямецкую, дакладней – гановерскую, гісторыю ўзнікнення. Каля трох гадоў таму гановерцы ўшанавалі памяць сваёй славутай зямлячкі Ханы Арэнт (1906 – 1975) – філосафа, публіцыста, аўтара выдадзеных на многіх мовах свету прац "Паходжанне таталітарызму", "Аб рэвалюцыі", "Vita aktiva", "Улада і гвалт" і іншых, – заснавалі спецыяльную стыпендыю яе імя. Першым стыпендыятам стаў Алесь Разанаў, які ў выніку атрымаў магчымасць са студзеня 2000 г. па снежань 2002 г. жыць і працаваць у Гановеры. Знаёмства беларускага паэта з горадам, яго атмасферай і культурным ландшафтам, звычаямі насельнікаў і знайшлі мастацкае адлюстраванне ў "Гановерскіх пункцірах".

Творы, што ўвайшлі ў паэтычныя зборнікі "Знакі вертыкальнага часу" і "Танец з вужакамі", добра вядомыя беларускаму чытачу; апроч таго, пра іх у нас неаднойчы пісалі, іх рэцэнзавалі, аналізавалі ў навуковых працах, у тым ліку дысертацыях. Што да "Гановерскіх пункціраў", то яны ўпершыню пабачылі светне толькі на нямецкай, але і на роднай мове менавіта ў Германіі і ўжо таму, паводле слушнай заўвагі У. Сакалоўскага, уяўляюць сабой унікальны выпадак у гісторыі беларуска-нямецкіх (ды, мусіць, і ўвогуле беларуска-замежных) літаратурных сувязяў. Думаецца, лагічна будзе якраз на гэтай кнізе засяродзіць увагу.

Жанравая форма, з якой мы маем справу ў "Гановерскіх пункцірах", вымагае своеасаблівага тэарэтычнага адступлення. Як вядома, тэрмін "пункцір" быў уведзены ў літаратурны абыходак менавіта Алесем Разанавым, для яго ж пункцір стаў адным з асноўных (поруч з версэтамі, вершаказамі, квантэмамі) відаў творчасці. Паэтыка пункціраў надзвычай адметная. Гранічна сціслыя, адзначаныя стылёвым аскетызмам, пазбаўленыя знешніх эфектаў, яны пакідаюць уражанне яснасці адбітых у іх думак і натуральнасці ўчынкаў, спантаннасці ўзнікнення, пластычнасці ўвасобленых прадметаў і з'яў. Эпіграфам да іх маглі б паслужыць словы Канфуцыя: "Адлюстроўваю, але не ствараю". Сапраўды, дыстанцыя паміж жыццёвым досведам і творчасцю (і, адпаведна, паміж аўтарам і лірычным героем) тут калі не цалкам знішчана, дык у кожным разе значна скарочана. Між тым уважлівы чытач адчувае, што сэнсавая глыбіня пункціраў не наяўная, так сказаць, – яна не столькі ў самім канкрэтным творы, колькі ў патэнцыяле яго ўспрымання намі. Нездарма нямецкая крытыка параўноўвала паэзію А. Разанава са знакамітым "Чорным квадратам" Казіміра Малевіча. Якраз у працэсе чытацкага асэнсавання тых жа пункціраў зафіксаваныя ў іх звычайныя падзеі паўсядзённага жыцця набываюць філасофскую важкасць і значнасць, а тая ці іншая тэма знаходзіць сваё разгортванне-развіццё. Паступова пачынаеш разумець, што ўвасобленыя ў пункцірах вобразы пры ўсёй сваёй вонкавай звыкласці ёсць вобразы-сімвалы, свайго роду паэтычныя кандэнсаты, праз якія вядзецца гаворка аб вечным – жыцці і смерці, дзяцінстве і сталасці, невычарпальнасці і пустэчы... Аб вечным у яго непадзельнасці на малое і вялікае. Аб вечным, што атуляе-ахінае празрыстыя, кожнадзённыя імгненні чалавечага існавання і надае ім сакральны сэнс.

Вышэй я невыпадкова ўзгадала Канфуцыя. Пункціры, прынамсі – у маім разуменні, надзвычай блізкія да ўсходняй паэзіі, найперш да японскай "кароткай песні" – танка і вытворнага ад яе – хайку (хоку). Не выключана, што ў нейкай ступені пункціры А. Разанава і генераваны былі заўсёднай – наколькі я магу меркаваць – яго цікавасцю да ўсходняй філасофіі і культуры, з літаратурай уключна. Варта, бадай, напомніць, што танка ўяўляе сабою 31-складовую пяцірадковую монастрафу з чаргаваннем пяці- і сяміскладовых вершарадоў, а хайку (хоку) – 17-складовую трохрадковую монастрафу з чаргаваннем, зноў жа, пяці-, сямі- і пяціскладовага вершарадоў. Рыфма ў абодвух выпадках адсутнічае. В. Рагойша ў "Тэорыі літаратуры ў тэрмінах" (Мн., 2001) справядліва адзначае незвычайную паэтычную ёмістасць зместу і сэнсавую глыбіню танка і хайку. Высокай паэзіяй, нават чымсьці большым – спецыфічным спосабам светабачання – хайку, напрыклад, сталі дзякуючы такім творцам, як Мацуа Басё, Танігуці Бусон, Кабаясі Іса, Масаока Сікі. Паказальна ў святле нашай тэмы, што з творамі ці не самага славутага з іх – хайку вялікага "Старога з бананавай хаткі" М. Басё – беларускі чытач пазнаёміўся менавіта праз пераклады А. Разанава (Крыніца. 1997. № 32(6)).




Паўтаруся: пункціры А. Разанава, сярод якіх пераважаюць чатырохрадковыя, але сустракаюцца трох-, пяці- і шасцірадковыя, блізкія да танка і хайку. Яны гэтаксама ёсць творамі, у якіх глыбокі філасофскі сэнс рэдуцыруецца да гранічна сціслай вербальнай выявы, да факусіравання зместу ў з'яве або рэчы-дамінанце (ці, дакладней, дэтэрмінанце), яны гэтаксама ж адбіваюць у сабе найтанчэйшыя душэўныя рухі і, нарэшце, патрабуюць не толькі асацыятыўнага чытання і ўмення пранікаць у падтэкст, але і духоўнага суперажывання. Аб гэтай агульнасці лепей за ўсякія аргументы сведчаць самі творы.

**З хайку М. Басё:**

*Спадае вада: вярба*
*гладзіць нахіленым вецццем ціну.*

•

*Лётае матылёк*
*трапятліва ў полі —*
*вось і ўвесь цень.*

*(Пераклад А. РАЗАНАВА)*

**З "Гановерскіх пункціраў" А. Разанава:**

*Адліга.*
*Мяшаецца, што было,*
*што будзе.*

•

*Над дахам -- маладзічок,*
*над дзвярыма -- падкова:*
*бліскучая рыфма!*

У свеце, увасобленым як у танка і хайку, так і ў пункцірах, аднолькава істотныя побытавае і быційнае, матэрыяльнае і духоўнае, прыроднае і чалавечае. Вядома, што нізкі хайку звычайна маюць падзел на часткі ў адпаведнасці з порамі года: Вясна – Лета – Восень – Зіма; гэткім прынцыпам будовы сваіх паэтычных цыклаў кіраваўся, напрыклад, Бусон. Але і ў анталогіях з іншай кампазіцыяй гэтак званая "сезонная" лексіка нязменна прысутнічае, і тая ці іншая пара года абумоўлівае адчуванні героя. "Гановерскі" цыкл А. Разанава мае менавіта "сезонную" архітэктоніку, і гэта не проста ўпарадкаванне пункціраў па "сезонных" тэмах: чалавек таксама мяняецца, перажывае свае Вясну і Лета, Восень і Зіму. Так утвараецца агульны для смяротнага чалавека і несмяротнай прыроды кругаварот жыцця. Як танка і хайку, пункціры пакідаюць уражанне інтанацыйнай і эмацыйнай стрыманасці і адначасна шчырасці і непасрэднасці, гарманічнай спалучанасці чароўнай лёгкасці быцця з самотным усведамленнем яго хуткаплыннасці для асобнага чалавека. У працяг усходняй традыцыі А.Разанаў, кажучы словамі нямецкага крытыка Ілмы Ракуза з яе артыкула "Poetisches Wunder aus Weissrussland" ("Паэтычны цуд з Беларусі"), "стварыў самабытны паэтычны космас, што ўлоўлівае цэлы свет у лакальных адзінкавых падзеях, арганічна лучыць у сабе фантазію і навуковасць, простае і складанае".

Відавочна, для нямецкага чытача "Гановерскія пункціры" двойчы цікавыя: праз успрыманне беларускага паэта ў іх пададзены дух нямецкай "урбаністычнай мясціны", не пазбаўленай, аднак, сувязі з адвечна-прыродным. Перафразіраваўшы словы вядомага беларускага літаратуразнаўцы У. Мархеля (з іншай, але блізкай нагоды), можна сказаць: перакладчык "Гановерскіх пункціраў" вяртае "іншамоўнае сваё" да нямецкага "першагуку".

*Блукаю па вуліцах —*
*незнаёмец:*
*сонца то з левай рукі,*
*то з правай.*

Так пачынаем мы разам з паэтам гановерскую вандроўку даўжынёй у год; прыпынімся ля заснежанага чырвона-зялёнага куста на Шарлотэнштрасэ, пастаім адвячоркам ля кірхі святога Міколы, на Лімэрштрасэ палюбуемся на чырванашчокага хлопчыка з піцай, пацешымся з блазнавання гановерскага карнавала, разам з птушкамі ўхвалім арганную музыку, што даносіцца з Залатога завулка... Пры гэтым мусім не проста чытаць, але і слухаць, назіраць: "агучваюц-

ца" не толькі жывыя істоты, але і прадметы, рэчы, з'явы, асобныя дэталі, а сціплы, някідкі жывапіс мае сваім плёнам візуальны эфект. Бачыш снег у чырвоных лапіках качак, надмагілле з гатычнымі літарамі, паланёны лёдам чарот, кірху-руіну, толькі што пакінутую яблыкам галіну, якая шукае зніклую раўнавагу...

Маючы справу з кнігамі-білінгвамі, нельга не сказаць пра якасць перакладаў. Праўда, як на мой погляд, яна па вартасці можа быць ацэнена самім носьбітам мовы перакладу; толькі немец можа сказаць, ці пакідаюць перастворaныя па-нямецку вершы ўражанне перакладзенасці, ці гучаць як прыналежныя нямецкаму мастацкаму слову, – адзін (хаця і не адзіны) з паказчыкаў узроўню перакладу і перакладчыка. Наколькі ж я магу меркаваць, пераклады адбыліся – як у дзвюх апошніх кнігах, так і ў першай, "Знакі вертыкальнага часу".

Следам за О.Анзулем мы маем падставы канстатаваць: "Крок за крокам тут збліжаюцца мовы...". Перакладчыкам удалося згарманізаваць паэтычнасць з дакладнасцю (на мой непрафесійны погляд, дзве абавязковыя ўмовы прафесійнай працы і нават прафесійнай этыкі перакладчыка), пранікнуць у настраёвую атмасферу паэзіі А.Разанава, перадаць філасофскую адчыненасць апошняй у перспектыву чытацкага ўспрымання, увасобіць яе падтэкставасць, "прачытаць" беларускага паэта ў беларускім жа нацыянальным і індывідуальна-аўтарскім кантэкстах, але ў той жа час зрабіць яго творы набыткам нямецкай культуры. Вельмі важна, што перакладчыкі А.Разанава – і Эльке Эрб, і Оскар Анзуль – таленавітыя паэты, прычым іх філасофія жыцця роднасная светапогляду А.Разанава.

Зразумела, перакладчык мусіць пераўвасабляцца, нездарма непераўздзены В. Сёмуха неяк параўнаў яго (і сваю) перастваральніцкую працу з акцёрскай. Уважліва паставіліся перакладчыкі і да паэзіі А.Разанава. Тым не менш усякі твор пры перакладзе не можа не падвяргнуцца пэўнай трансфармацыі. У нашым выпадку гэта датычыцца найперш рытмікі разанаўскіх твораў, пры тым што перакладчыкі імкнуліся ашчаджаць і яе; змены ж абумоўлены, як мне падалося, не столькі перакладчыцкай суб'ектыўнасцю, колькі асаблівасцямі беларускай і нямецкай моваў. Спашлюся на прыклады мінімальнай трансфармацыі арыгінала:

Спрачаецца з хваляю хваля:
цярпліва
іх выслухоўвае глыбіня.
Сонца зайшло,
а камень
дыхае цеплынёю:
удзячная памяць.

Welle streiter mit Welle:
geduldig
hort die Tiefe ihnen zu.
Die Sonne ist untergegangen,
doch der Stein
armet noch Warme:
dankbares Gedachtnis.

Як бачым, у перакладзе ўжыты амаль ідэнтычныя граматычныя канструкцыі, захаваны колькасць вершарадоў і іх сінтаксічнае афармленне. Але некалькі адрозная – з-за рознай колькасці складоў у вершарадзе – рытміка. Апроч таго, пры перакладзе другога пункціра О.Анзуль выкарыстоўвае ў адпаведнай пазіцыі слова "яшчэ", ці "пакуль" ("noch"), адсюль дакладна – "а камень яшчэ дыхае цеплынёю"; іначай кажучы, значэнню дамінантнага вобраза надаецца якасць абмежаванасці ў часе і, адпаведна, сэнс твора канкрэтызуецца і прагматызуецца.

Зрэдку пры перакладзе мяняецца колькасць вершарадоў, даволі часта – у адпаведнасці з нормамі нямецкай мовы – трансфармуюцца граматычныя канструкцыі і ў выніку ссоўваецца на іншы вершарад сэнсавы націск. Пры гэтым, аднак, перабудова паэтыкі твораў ва ўсіх трох кнігах не з'яўляецца кардынальнай. Застаюцца нязменнымі танальнасць, семантычная шматпластавасць, філасофская насычанасць твораў беларускага паэта, захоўваецца (дакладней, узнаўляецца) прынцып гульні сэнсамі, словамі, гукамі – фірменны знак паэзіі А.Разанава.

Такім чынам, адбыліся новыя сустрэчы ("рукапацісканні", як выразіўся О.Анзуль) беларускага мастацкага слова з нямецкім, з еўрапейскай чытацкай аўдыторыяй, крытыкай і літаратуразнаўствам, нарэшце. Дарэчы, матэрыялы ў нямецкім друку, прысвечаныя кнігам перакладаў з паэзіі А.Разанава, не ёсць фармальна-ветлівым водгукам на "чужое слова" (М.Бахцін); гэта грунтоўныя даследаванні эстэтыкі і філасофіі беларускага паэта, яго ўзаемадачыненняў з сусветнай літаратурнай і нават жывапіснай традыцыяй, з метафізікай і прыроднай містыкай. Паказальная і выснова, якую робіць менавіта нямецкі крытык (І.Ракуза) і якой хацелася б закончыць гэты артыкул: "Голас Разанава гучыць далёка за межамі Беларусі".

**Ева ЛЯВОНАВА**

## АНКЕТА ШТОТЫДНЁВІКА "ЛіМ"

### ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

**Адказы на пытанні анкеты мы жадалі б атрымаць не пазней як 1 студзеня 2003 года.**

**1. Што вы прачыталі ў гэтым годзе з беларускай літаратуры (рукапісы, публікацыі, кніжкі)?**

**2. Што перачыталі са "старога" і адкрылі ў ім новае?**

**3. Што найбольш уразіла з прачытанага?**

**4. Назавіце свой суб'ектыўны рад любімых вамі сучасных пісьменнікаў (да 10 чал.), паэтаў (да 10 чал.), крытыкаў (да 5 чал.).**

**5. Над чым працуеце сёння, які маеце літаратурны і жыццёвы клопат, і дзе што сваё мяркуеце надрукаваць у бліжэйшы час?**



Нарадзілася далёка — на Камчатцы. Але радзіма — Наваградак. Скончыла БДУ. Крытык, празаік, эсэіст. Выдала некалькі кніжак — "Гарачы след тапенту", "Слова сапраўднага лад", "Святло загадкі". Многае ўсё яшчэ чакае выдання.

**Ала СЯМЁНАВА:**

Чамусьці напачатку кінула вока на пытанне чацвёртае.

Рэйтынгі, абоймы, узнагароды, прэміі, званні... І згадваецца — напярэдадні Другой Сусветнай (Айчыннай) вайны ордэны і знакі пашаны атрымалі ледзь не дзвесце пісьменнікаў былога Саюза. А можа, і больш. Сярод іх не было — Ахматавай, Пастэрнака, Булгакава, Платонава. Ну, і вядома, Цвятаевай (ёй нават у "пасадзе" посуд мыць адпрэчылі). Не ў такім ужо далёкім мінулым у нас, на Беларусі, толькі пасмяротна атрымаў прэмію Міхась Стральцоў, амаль што пасмяротна — Уладзімір Караткевіч... Рыгор Бярозкін і пасмяротна нічога не атрымаў... З тых, хто, дзякаваць Богу, жывы і здаровы — Вера Вярба не мела ніколі ніякіх ушанаванняў і шмат хто іншы.

Ну, але тое афіцыёз. А тут — анкета — паводле думкі калег. Адно толькі адзін выпадак з гісторыі. Калега Гюго, толькі што абраны ў акадэмію з нагоды смерці Стэндаля заўважыў: "...ён (Стэндаль) не мог на хвіліну ўявіць сабе, што значыць пісаць..." І нават сябар Стэндаля, Мерымэ, адзін з трох, хто ішоў за труной пісьменніка, добразычліва прыкмеціў: зразумела, Стэндаль ніколі не быў пісьменнікам, але быў начытаны, добры і дасціпны. Выдавец з вялікімі ваганнямі выпусціў 750 асобнікаў рамана "Чырвонае і чорнае"...

У XX стагоддзі Стэндаль быў адным з папулярных празаікаў. Ну, а 750 асобнікаў сёння шмат для каго на Беларусі — мара. Можна, праўда, суцешыцца сентэнцыяй Бісмарка наконт таго, што вялікія тыражы для дурняў, а малыя тыражы якраз па колькасці разумных галоў. Ды і ў наш час, у нашай краіне сам факт — кніжнай! — публікацыі нечага ды варты (не будзем развіваць думку наконт лёсу кнігадрукавання). Вось чаму мне не хацелася б выбудоўваць нават суб'ектыўны шэраг. І вось у апошнім (25 кастрычніка 2002 года) "ЛіМе" — яскравае сведчанне. Чытаю "вымушаны эксклюзіў" Ірыны Шаўляковай пра Вольгу Куртаніч і мыслю: як жа гэта я прамінула не прозу, здаецца, за ёю сачу ўважліва. Аказваецца, камп'ютэрна-рукапісны варыянт пісьма. А колькі такіх "варыянтаў"?

Што датычыць крытыкаў, дык "чыстых" крытыкаў у нас амаль не засталося. Большасць пайшлі ў палітыку, паліталогію, культуралогію (нехта — у "чыстую" прозу ці драматургію), многія — у літаратуразнаўства. Сёння крытыка існуе за кошт "прарываў" у яе літаратуразнаўцаў (бо гэта ўсё ж навука, а крытыка, так бы мовіць, мастацтва, літаратура) і высілкамі прадстаўнікоў усіх іншых жанраў. Нічога кепскага ў тым не бачу. Горш іншае. Гларыяграфічны і іканапісны жанр допісаў: восьмярэк еўрапейскага ўзроўню, сусветнага ўзроўню, гэты — геній, а гэтая — дыямента-зорны талент. Ці наадварот — нічога не было, няма і наўрад ці будзе. Цяжка з выданнем прозы і паэзіі, крытычныя працы (не літаратуразнаўчыя) у выглядзе кнігі — амаль фантомы. Але ж тых, хто выступае цікава ў крытыцы, набрала б больш за пяцёрку. Персаніваваць, аднак, не буду.

Лепш моўлю пра тое, што прыватныя выдавецтвы даюць магчымасць усё ж некаторым пісьменнікам парадаваць нас сваімі кнігамі. І ўзроўнем выданняў: адпаведнасцю дыстынктоўнага афармлення важкасці мастацкага зместу — да ўзору, кнігі Яна Чыквіна і Галіны Тварановіч, Ніны Мацяш, Алеся Разанава, Валянціны Аксак, Вольгі Куртаніч (маю на ўвазу яе кнігу паэзіі), у афармленні Людмілы Рублеўскай — яе ўласныя кнігі і вершы Віктара Шніпа (не кажу пра шыкоўныя выданні Уладзіміра Арлова і Адама Глобуса). А проза Уладзіміра Сіўчыкава... першая кніга вершаў Таццяны Барысюк... (Маю на ўвазе афармленне.)

Будзем спадзявацца, што і дзяржаўныя выдавецкія структуры дадуць магчымасць пабачыць грамадскасці кнігі беларускіх пісьменнікаў...

На што звярнула ўвагу? Што ўразіла? Лічу надзвычай важным для нашай свядомасці і культуры з'яўленне такіх часопісаў, як "Наша Вера", "Ave Maria", "Тэрмапілы" (Беласток)... Відаць, што з'явілася літаратура рэлігійна-духоўнага кшталту: паэзія, проза, эсэістыка. Крыстына Лялько, Данута Бічэль, Ірына Жарнасек, Мар'ян Дукса, Ірына Багдановіч, Алесь Чобат і г.д.

Імёнаў для мяне значных многа. Але ўражанні спарадычныя. Ды і лепшым адказам на анкету былі б мае кнігі. Пра многіх мелася весці гаворку.

Чытаю і перачытваю многае. Найперш — Біблію. Розныя выданні. Айцоў Царквы. Творы Яна Паўла II, Ёзафа Ратцынгера, Блэза Паскаля, іншых тэолагаў, філосафаў, эстэтыкаў; празаікаў і паэтаў, што "грашылі" і на абстрагаванае мысленне: ад Платона, Гегеля, Шэлінга, Гётэ, Наваліса, Дж. Леапардзі, Роскіна — да Юма, Сартра, Хайдэгера, Артэга-і-Гасэта, А. Мачада... Чытаю і перачытваю Томаса Мана, Чэслава Мілаша, Мілана Кундэру, Альбера Камю, Віславу Шымборску... Янку Купалу, Максіма Багдановіча... Ахматаву, Пастэрнака, Валошына.. Рыльке, Бадлера, Верлена, Валеры, Апалінэра... Іспанамоўных паэтаў: Г. Лорку, Р. Дарыа, М. Астурыаса, Г. Містраль... Вяртаюся да Дантэ і Шэкспіра. Да кніг мастакоў і пра мастацтва: ад дзённікаў Дзюрэра да Сальвадора Далі, да кніг майстроў кіно: Антаніёні, Бергмана, Феліні... Гэта ўсё — любімае.

Планаў — процьма. Сваіх. Як яны рэалізуюцца не за пісьмовым сталом, а ў друку — цяжка сказаць. За пісьмовым сталом моц дае Бог, друкуюць — людзі.



Нарадзіўся ў 1927 г. на Шклоўшчыне. Па прафесіі бібліятэкар (закончыў завочна Мінскі педінстытут імя Горкага). Працаваў ва ўстановах культуры і выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума. Цяпер на пенсіі.

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ:**

1, 2, 3. Прачытаў "Палескую мадонну" і "Пошукі прытулку" Івана Шамякіна. Зацікавіўся і ягонымі "Начнымі ўспамінамі". Проза старэйшага класіка і сёння нас уражвае. Чытаю (раней жа часта ўдавалася) мініяцюры патрыярха беларускай літаратуры Янкі Брыля. Мяне захапілі ягоныя чытацкія асэнсаванні, роздум пра творы і іх аўтараў. Прызнаюся: лепшага чытача на Беларусі няма. І каб праводзіўся ў рэспубліцы конкурс на лепшага чытача, то прызавое месца, безумоўна, за Янкам Брылём.

Наколькі магчыма, то чытаю (выбарачна — узрост) "Крыніцу", "Роднае слова", "Полымя", "Маладосць", "Беларускую думку", а "ЛіМ" яшчэ і выпісваю (ён далёка не да кожнай бібліятэкі даходзіць).

З паэтаў найбольш цікавяць вершы Сяргея Законнікава, Віктара Шніпа, Соф'і Шах. Звяртаю ўвагу і на маладых аўтараў. Але вылучыць каго пакуль не магу.

Найлепшае ўражанне ў мяне ад прачытанай кнігі Алеся Пісьмянкова "Я не памру, пакуль люблю" (і ад вершаў, і ад прозы).

Перачытваю асобныя творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Чыгрынава, Віктара Карамазава, Аляксея Пысіна... На схіле гадоў, глянуўшы свежым вокам на знаёмыя і часам забытыя ўжо эпізоды, вобразы, адчуваеш які ў нас майстры Слова, якая багатая ў нас Літаратура!.

4. Апроч згаданых ужо празаікаў Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Віктара Карамазава назаву яшчэ Леаніда Левановіча, Алеся Каско, Васіля Якавенку, Алену Васілевіч, Таісу Бондар, Сямёна Букчына.

З паэтаў: Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Скарынкін, Іван Пехцераў, Сяргей Грахоўскі, Раіса Баравікова, Святлана Басуматрава, Зміцер Марозаў.

З крытыкаў: Уладзімір Гніламёдаў, Мікола Мішчанчук, Васіль Макаревіч, Любоў Гарэлік і Міхась Скобла.

5. Даводжу да ладу рукапіс кніжкі "Урокі Аляксея Пысіна" (гісторыі напісання яго твораў).

На камп'ютэры набраны "Вянок Пысіну" (укладальнік — аўтар гэтых радкоў, а прадмову напісаў Іван Пехцераў).



Нарадзіўся ў г. п. Краснае Сяло Гродзенскай вобласці ў 1961 г. Вучыўся ў БДУ. Паэт, пісьменнік. Перыядычна друкуецца ў літаратурна-мастацкіх выданнях. Уласнай кніжкі пакуль не мае.

**Сяргей ВЕРАЦІЛА:**

1. Я даўно звыкся з думкаю, што працэс чытання ўжо ёсць для мяне не толькі пільнаю неабходнасцю, ён ужо ёсць часткаю мяне самога, замяняльнікам звычайнай жыццядзейнасці, я ўжо адчуваю, што прачытаныя, а значыць засвойтаныя тэксты становяцца ў пэўным сэнсе наватне дапаўненнем маёй асобы, а працягам яе.

Новых кнігаў не набываў, а таму чытаў альбо падоранае альбо ўзятае на пачытаць, тое самае было і з перыёдыкай. Асабліва шкада было развітваццa з часопісам "Крыніца" ў кожным нумары якога я знаходзіў самае малое хоць адзін тэкст варты ўвагі.

2. Таксама перачытваў і старое. Задавальненне прынесла "Была такая вёска" Улашчыка. Уразілі ж найболей "Дзве душы" Гарэцкага. Новага ў іх было ўсё тое ж: жаль пра незавершанасць тэксту і горыч з таго, што як бруталь на гэты тэкст дапісала жыццё.

3. Самае апошняе ўражанне — лірычная нізка Вольгі Куртаніч у "ЛіМе". Любое пачуццё, так любое, ёсць падставаю для паэзіі. Адно толькі, каб гэтае пачуццё было моцным, каб біла ў скроні, апякала подых, сціскала сэрца, і тады слова дойдзе, калі не да адрасата, то пэўна ж да чытача. І тады праклён будзе клясцi, а замова — гаіць. Шэпт стане як крык, і подых набудзе якасць.

4. Пытанне падаецца мне, па-першае, не этычным, а па-другое, нават выбудоўванне шэрагу выдае на градацыю. А градус вельмі лёгка можна змяніць у залежнасці ад настрою. На сённяшні дзень, да прыкладу я ўражаны "Койгай Ярэміі" і таму нат не хачу нікога ставіць побач. Заўтра я можа стану перачытваць "Новую Зямлю" і прачытанае будзе для мяне найважнейшым.

Я — суб'ект, а таму магу быць толькі суб'ектыўным.

5. Клопат мой на сёння, што я буду есці заўтра і ці наогул буду есці, таксама турбуюся, каб хоць некім чынам упісацца ў жыццё, бо адчуваю, як адна за адной рвуцца тыя повязі, якія прылучаюць мяне да жыцця. А так пішу чарговы раман альбо гэта будзе аповесць. Жанр, форма — гэта ўсё мярэча, галоўнае пераадолець супраціў матэрыялу і згарманізаваць прастору, гэта будзе маім сціплым унёскам у барацьбу супраць энтрапіі. А друкавацца буду там, дзе надрукуюць. Назва і накірунак выдання для мяне вялікага (ды й невялікага) значэння не маюць.

# У «БЕЛАРУСКІМ КНІГАЗБОРЫ» — ІГНАТ ДАМЕЙКА

У кніжных магазінах з'явілася вельмі цікавая навінка: "Мае падарожжы" Ігната Дамейкі — чарговы том "залатой" кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор". Ігнат Дамейка — сусветная славутасць. Не дарэмна ж міжнародная арганізацыя ЮНЕСКА абвясціла 2002 год — годам Ігната Дамейкі, нашага вялікага земляка, якому споўнілася сёлета 200 гадоў з дня нараджэння.

Хто ж такі Ігнат Дамейка? Разгарніце славутую паэму класіка сусветнай літаратуры Адама Міцкевіча "Дзяды". Яе трэцяя частка пачынаецца з таго, што ў віленскую турму, куды царскія ўлады




кінулі цвет беларускай моладзі — філаматаў і філарэтаў, жандар прыводзіць новага арыштанта — Жэготу: так звалі сябры-філаматы маладога Ігната Дамейку. Ён быў адным з завадатараў віленскіх студэнцкіх згуртаванняў і зрабіўся такім чынам героем твора Адама Міцкевіча, які таксама апынуўся сярод зняволеных. Пасля турэмнай адсідкі Ігната Дамейку выслалі ў яго вёску Заполле на Лідчыне пад нагляд паліцыі. Але калі 4 лістапада 1830 года пачалося антыцарскае паўстанне на Беларусі і ў Польшчы, Ігнат Дамейка кідае сваю гаспадарку і ідзе ў шэрагі змагароў за волю. Пасля разгрому Лістападаўскага паўстання ён уцякае за мяжу. Спачатку прыязджае ў нямецкі горад Дрэздэн, а адтуль разам з сябрам-філаматам Адамам Міцкевічам прабіраецца ў Францыю, дзе пасяляецца ў Парыжы. Праз некалькі гадоў па рэкамендацыі Адама Міцкевіча Ігнат Дамейка выпраўляецца як знаўца горнай справы ў далёкую паўднёваамерыканскую краіну — Чылі, дзе арганізоўвае вывучэнне прыроды і карысных выкапняў. Больш чым паўвека свайго жыцця аддаў беларускі выгнаннік сваёй другой радзіме, стаўшы нацыянальным героем Чылі. Яго імем названы там горны хрыбет у Кардыльерах, горад у падножжы гэтага хрыбта, порт на беразе Ціхага акіяна — Пуэрта-Дамейка, вуліцы ў самых вялікіх чылійскіх гарадах, асобныя чылійскія навучальныя установы, бібліятэкі, шахты, грамадскія аб'яднанні і нават заснаваны ў 1950 годзе ў Пуэбла-Дамейка Саюз футбалістаў "Дамейка".

Пра свае поўнае прыгод жыццё, пра ўдзел у паўстанні 1830—1831 гадах, пра знаходжанне ў Парыжы разам з Адамам Міцкевічам, пра падарожжа ў Чылі і назад, пра найцікавейшыя, вельмі небяспечныя экспедыцыі ў Кардыльеры, у краіну індзейцаў Араўканію, якая 300 гадоў змагалася за незалежнасць супраць іспанскіх канкістадораў, вельмі цікава і захапляльна расказвае Ігнат Дамейка ў сваёй кнізе "Мае падарожжы".

Адкрываецца кніга уступным артыкулам пра І. Дамейку "Яго імем названы гарады і горы". У кнізе даецца таксама вялікі блок ілюстрацый, звязаных з жыццём і дзейнасцю І. Дамейкі.

**Н. КУДРЭЙКА**



**Віктар ШНІП**



## БАЛАДА БЕЛЫХ ПТУШАК

*Белыя птушкі лятаюць над намі,*
*Быццам анёлы ў начы*
*над крыжамі,*
*Што на ўтравелых магілах*
*стаяць.*
*Белыя птушкі, як белыя душы,*
*Белыя, быццам нябёсныя ружы,*
*Што на вятры каля зорак*
*дрыжаць.*

*Ты мне гаворыш*
*пра светлыя далі,*
*Быццам пра сонца, якое шукалі*
*Белыя птушкі на белай зямлі*
*І не знайшлі, і ўзляцелі над намі,*
*Быццам малітвы, што выспелі*
*ў Храме,*
*Дзе мы з табою, як птушкі, былі...*

•

*Вам самагубцу не зрабіць з мяне,*
*Як я ніколі не ўтаплю ў віне*
*Свой сум па тым, што ўжо*
*не разам мы*
*Ідзём праз ноч і замеці зімы,*
*Якую самі абудзілі ўчора*
*І ўжо зіма, як маладое мора,*
*Нас затапіла ўсіх і падзяліла*
*На тых, хто хоча плыць, і тых,*
*хто — ныць*
*Аб тым, што ўсё на свеце*
*тут няміла,*
*І нельга ў моры анікому жыць...*
*Вам самагубцу не зрабіць з мяне.*
*Я сонца намалюю на вакне*
*І буду верыць, што зіма міне,*
*Нібыта сэнс спазнаецца ў віне...*

•

*Нічога не баяцца, нават смерці —*
*Вар'яцтва гэта поўнае, не больш.*
*Не знаем боль, гавораць пра боль,*
*Таму нам сёння вы зусім не верце,*
*Бо мы пілі святло і будзем піць*
*І нам нічога, п'яным, не баліць,*
*Як мёртвым не баліць нічога.*
*І слава Богу — шчэ баімся Бога*
*І верыць пачынаем, што жыццё*
*Ніколі не паўторыцца пад сонцам,*
*Хоць будзе гэты свет ляцець*
*бясконца*
*У прорву часу, як з бяроз лісцё*
*Ляціць на цёплую, як кроў, зямлю,*
*Якую я, нібы свой дом, люблю,*
*І не баюся сёння анічога,*
*І прада мной, нібы агонь, дарога*
*І шэры пыл над ёю, быццам дым,*
*І хочацца яшчэ пабыць жывым,*
*Каб зразумець, што гэты свет,*
*як сон,*
*І не паўторыцца ніколі ён,*
*Таму патрэбна жыць і не баяцца*
*Ісці, шукаць і памыляцца...*

•

*Шчаслівыя людзі, што ведаюць мала*
*Пра свет, у якім яны сёння жывуць.*
*Зноў зорка ў нябёсах ляцела і ўпала,*
*На міг асвяціла нябёсы й траву.*

*Шчаслівыя людзі... Я з імі шчаслівы*
*У неба гляджу і зноў бачу ў начы*
*Не зоркі над намі, а спелыя нівы*
*І родную вёску сваю Пугачы.*

*Шчаслівыя людзі... І кожны —*
*няшчасны,*
*І ў кожнага крыж свой, і ў кожнага*
*шлях*
*Да крыжа свайго, як праз лес*
*непралазны,*
*Праз лёс са слязамі на сумных*
*вачах.*

*Шчаслівыя людзі... Як трэба*
*тут мала*
*Для шчасця, якое прыйшло — і няма,*
*Як зорка ў нябёсах, што раптам*
*упала,*
*На міг перакрэсліўшы слова "зіма".*

*Шчаслівыя людзі, што ведаюць*
*многа*
*Пра свет, у якім яны сёння жывуць,*
*І ў Храм ідучы, зноў прыходзяць*
*да Бога,*
*Які асвятляе нябёсы й траву...*

•

*Пад тваімі вокнамі рабіна*
*Сумная, як нашая Айчына,*
*Сумная, бо хутка ўжо зіма.*

*І глядзіш ты на рабіну ветла,*
*Ад рабіны ў панадворку светла,*
*Ды чамусьці радасці няма.*

*Хутка ўжо сцямнее ў панадворку*
*І ў нябёсах Бог запаліць зорку*
*І глядзець на зорку будзеш ты.*

*І ўрасце ў тваю душу рабіна,*
*Светлая, як нашая Айчына,*
*Сумная, як восенню лісты...*

•

*Зноў за вокнамі ноч, як бяздонне*
*Адзінокай забытай ракі,*
*У якой патанулі мы сёння,*
*І не хутка са дна рыбакі*
*Чорнай сеткай дастануць на бераг*
*Нас усіх, што заціхлі даўно,*
*І ў сваё ратаванне не вераць*
*І таму п'юць спакойна віно,*
*І глядзяць на халодныя зоры,*
*Што, як воўчыя вочы, бліщчаць*
*У чарнюткім, як попел, прасторы,*
*Дзе анёлы, як дым, зноў ляцяць*
*У жывое, як рэчка, бяздонне,*
*У якое мы ціха глядзім*
*І не бачым, як плавіцца Сёння,*
*Быццам свечка, з якой белы дым*
*Адлятае, як наша дыханне,*
*І знікае, як наша віно,*
*У якім ёсць пачатак світання,*
*Пра якое мы плачам даўно...*

•

*Лягчэй за ўсё цяпер сысці з дарогі*
*І назіраць, як хто куды ідзе,*
*І гаварыць пра збітыя парогі,*
*Пра неспакойных маладых людзей,*
*Якім ахвота перамен і славы*
*Не ў нейкім заўтра, а якраз цяпер,*
*Калі бушуюць на магілах травы*
*І цень у травах, як нязнаны звер,*
*Які прачнуўся і які шалее*
*З таго, што мы дарогаю ідзём,*
*Дарогаю, якую разумеем*
*І кожны крок з дарогаю расцём.*
*І ўслед мы чуем злосны смех і крыкі*
*Аб тым, што мы забыліся, хто мы,*
*Што заўтра іх чакае свет вялікі,*
*А нас чакае чорны сон турмы...*
*І хоць лягчэй за ўсё сысці з дарогі*
*І прытварыцца хворым і старым,*
*А мы ідзём, збіваючы парогі,*
*І верачы, што свой збудуем Рым.*

•

*Не швэндайце па вуліцах, нібы*
*вар'яты.*
*Пільнуйцеся свайго двара*
*і роднай хаты,*
*І будзе ўсё, як трэба,*
*каб жыццё цвіло*
*І ў ім спляталіся самота і святло*
*Ад спелых ніў, што дзесь далёка*
*за гарамі,*
*Нібыта скарб вялікі за сямю*
*замкамі...*
*Не швэндайце, няма былога ўжо*
*даўно.*
*Ёсць кроў у сэрцы, як у келіху віно,*
*Разбіце сэрца і напіцеся да слёз,*
*Каб чорны свет стаў белым,*
*як святло бяроз,*
*Якія сёння ціха ля дарог стаяць,*
*І ўслед зжаўцелаю лістотаю ляцяць*
*За намі, быццам знаем мы*
*выратаванне*
*Ад восені, ад ветру, ад агню*
*расстання...*

## СПЁКА

*Зноў спёка... І сонца, як д'яблава*
*вока,*
*Адно над прасторам зжаўцелым*
*і намі*
*І, быццам вуголле, у нас пад нагамі*
*Каменне, з якога народзіцца спёка*
*І пылам у неба ўзляціць і растане,*
*А можа, і зоркай маленькаю стане*
*І будзе свяціцца ў начы адзінока,*
*А днём будзе спёка, а днём будзе*
*спёка,*
*І сонца зноў будзе, як д'яблава вока,*
*Якое ўсё бачыць і бачыць далёка,*
*Далей, чым ісці нам сягоння з табою*
*У свет, дзе дажджы хаўрусуюць*
*з травою*
*І травы растуць, нібы дождж,*
*да аблокаў,*
*А ў небе аблокі высока-высока*
*Пад зоркай маленькай, як кропляй*
*з крыніцы,*
*З якой анікому цяпер не напіцца,*
*Бо сонца ў нябёсах, як д'яблава вока,*
*І спёка...*

•

*Адны палохаюць судом*
*І божай караю — другія.*
*Ды пройдзе час — мы ўсе памром*
*І, быццам бы лісты сухія,*
*Пад ногі боскія ўпадзём.*

*І ты ўпадзеш, і я ўпаду,*
*І пасмяюцца чужаніцы,*
*Бо вып'юць нашую ваду*
*З жывое нашае крыніцы,*
*Калі ўпадзеш і я ўпаду.*

*І скажуць нам, што нас няма*
*І не было на гэтым свеце,*
*І спадзявацца нам дарма,*
*Што нас пад сонца ўздыме вецер.*
*І верне, як міне зіма...*

*І нам ніколі не вярнуць*
*Сяброў, якія ачужэлі,*
*Якія беспрасветна п'юць,*
*Якія лісцем абляцелі*
*І ўсё лятуць, лятуць, лятуць...*

•

*Я люблю сяброў, што ўмеюць*
*здрадзіць,*
*Быццам лёд на рэчцы веснавой*
*Праламацца, чорнаю вадой*
*Белы снег, нібы душу, загадзіць*
*І застацца лёдам пад нагой.*

*Я люблю і сам з сябе дзіўлюся,*
*Быццам рэжу вены, ну а кроў*
*Не цячэ, як сцежка да сяброў,*
*Без якіх я сёння абыдуся*
*І не знікну дымам ад кастроў.*

*Я люблю, і гэта нават смешна,*
*Бы атруту з рук сяброўскіх п'ю,*
*Быццам неба, нібы шыбу, б'ю,*
*Каб даць волю думцы сумна-грэшнай*
*І прамовіць: "Я сяброў люблю..."*



Фота Г. ЛІХТАРОВІЧА

# ЗАЛОЖНІК СІТУАЦЫІ

Віктар ПАТАПЕНКА



1

Юрый Караблёў, былы зняволены калоніі ўзмоцненага рэжыму, у якой правёў пяць гадоў свайго жыцця, а цяпер апальшчык у гарадской кацельнай, сядзіць на дубовым табурэце, што стаіць сярод пакоя, перад лавай, на якой у труне ляжыць яго маці. Караблёў то глядзіць на вобраз Божы ў куце хаты, то на трапяткі язычок свечкі, уторкнутай у скрыжаваныя на грудзях рукі нябожчыцы.

Да труны падыходзіць суседка маці баба Дарка, яна падпраўляе пахіленую свечку і кажа Караблёву.

– Ідзі да мяне, падсілкуйся. На прыпечку капуста вараная.

Юрый адмоўна круціць галавой. Зараз яму не да гэтага, яму трэба знайсці выйсце з той сітуацыі, у якой спачатку апынуўся ён, а потым, як кажа баба Дарка, заложніцай стала і яго маці. І каб не ўсё гэта, то, мабыць, маці ягоная яшчэ пажыла б на гэтым свеце.

А было так: позна вечарам да яе завітаў няпрошаны госць, Рыгор Макляўскі – так званы мясцовы крымінальны аўтарытэт, які пасягае на ролю "смотрящего" за вобласцю. Ён забраў у старой пенсію, сказаў, што гэта доўг, які яму не аддае яе сын, і прыгразіў старой, што ў наступны раз калі што, падпаліць хату.

"Зараз ёй ужо нічога не страшна, – разважае Караблёў. – А мне трэба добра пакумекаць, як паставіць на месца Макляўскага, які пяць гадоў піў з яго кроў". Увесь гэты час Караблёў працаваў на яго і яму падобных падхалімаў у калоніі, якія з-за некалькі грамаў гарбаты ці магчымасці дадаткова атаварыцца ў ларку, гатовы былі лізаць азадак кожнаму, хто меў у калоніі службовыя паўнамоцтвы.

Гэтага сабе ён не дазваляў. Ніколі "не заигрывал" ні з адміністрацыяй, ні з блатнымі, працаваў плотнікам, штодзённа перавыконваў нормы выпрацоўкі ў некалькі разоў. Стараўся быць сумленным ва ўсім.

У вольны час у калоніі ў думках ён шмат разоў вяртаўся да таго дня, калі здарылася тое, што прывяло яго на лаву падсудных. Тады яны з напарнікам, памочнікам камбайнера, пасля змены па сто грамаў выпілі. Выпілі дык выпілі. Памочнік, здаецца, звярнуўся па патрэбе ў кусты, ды чамусьці доўга не вяртаўся. Час ужо было заганяць машыну на калгасны двор. Пачакаў, пачакаў Караблёў – няма. Сеў за руль і паехаў. Каб жа знацце, што той пад колам заснуў...

На судзе Караблёў не выкручваўся: мая віна, карайце. Ён нават ад паслуг адваката адмовіўся. Суд, як кажуць, пайшоў насустрач – і Караблёў абышоўся "мінімалкай". Ён адбыў за калючым дротам толькі трэцюю частку тэрміну, выйшаў на вольнае пасяленне, а неўзабаве – поўная воля.

І вось цяпер ноччу ён паліў печы ў кацельнай, а днём з брыгадай будаваў дамы. З першага ж заробку (а ён быў немалы) Караблёў купіў прыгожую "ў кветкі" хустку і падарыў яе маці. У той жа дзень і завітаў да яго Макляўскі. Такі ж ганарлівы, якім быў у калоніі, ён ужо з парога сказаў, каб Караблёў штомесяц выплачваў грошы ў "агульны кошык" для "сугрэву братвы". Але Караблёў на гэта не згадзіўся, тут жа не калонія і выставіў няпрошанага госця за дзверы...

...Труну з нябожчыцай абступілі мужчыны. Караблёў зірнуў на гадзіннік: было чатырнаццаць. Ён падняўся з табурэткі, выйшаў на вуліцу. Закурыў. Да яго падышла баба Дарка і зноў сваё: "Юра, паеў бы ты ".

– Дзякуй, Мар'янаўна, не хочацца, – цяжка ўздыхнуўшы, адказаў.

Неўзабаве з хаты вынеслі труну. Нават ідучы за труной да могілак, Караблёў усё абдумваў і абдумваў, як адчапіцца ад назойлівага "крымінальна-грамадскага" дзеяча Макляўскага. Можна, канечне, падлавіць яго дзе-небудзь ды "ўсыпаць" як след. Але гэта не выйсце. Ды і зрабіць гэта аднаму цяжка: Макляўскі фізічна мацнейшы. Да ўсяго яшчэ больш разззлуецца вырадак. Можна злыдня здаць міліцыі, але ж у такім разе трэба ведаць усё пра яго "делишки". Не, усё гэта не падыходзіць, роспачна думаў Караблёў нават тады, калі разам з вяскоўцамі спыніўся каля свежа выкапанай магілкі. Сяк-так нібы абтрэс няпрошанае, ён стаў каля труны. Скупа, па-мужчынску заплакаў, адчуваючы сваю віну перад нябожчыцай.

2

А палове дзесятай раніцы ў двары "п-образных" шматпавярховак правінцыйнага гарадка, разыгралася сцэна, нібы з замежнага кінабаевіка.

А было так. У двары стаяў "МАЗ", каля яго міліцэйскі "жыгулёнак". Машыны цесным кальцом акружылі людзі ў цывільным і мясцовыя "даішнікі". Яны раілі сяржанту міліцыі, які сядзеў за рулём "жыгулёнка", не рабіць глупства і дазволіць аператыўнікам з аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю праверыць дакументы на груз, што знаходзіўся ў грузавіку..

Сяржант жа, у сваю чаргу, трымаючы пісталет напагатове, не падпускаў нікога да "МАЗа" і крычаў, што ён мае паўнамоцтвы інструкцыі, якія даюць яму права нікога не падпускаць да машыны без гаспадара груза. Той жа павінен хутка з'явіцца.

Аляксандр Другач, старшы групы захопу, трымаючы ў руках прадпісанне на праверку груза, спрабаваў аддаць сяржанту дакумент, але той і слухаць не хацеў. Было бачна, што сяржант сапраўды можа стрэліць.

Другачу ў такой сітуацыі нічога не заставалася рабіць, як выклікаць па радыёстанцыі начальніка міжрайаддзела.

– Андрэй Андрэевіч, што рабіць? Сітуацыя складаная, – пытаў Другач. – Груз нікто не сустрэў. Той фірмы, якая запісана ў дакументах на пакупніка спірта, у горадзе няма. Няма і тых, хто павінен быў сустракаць машыну. А ахоўнік, ім аказаўся міліцыянер з падраздзялення "Ахова", не падпускае да машыны. У яго інструкцыя і ён не можа яе парушыць. Патрэбны дакументы на арышт груза.

З хвіліну адказу не было. Потым у эфіры пачуўся голас начальніка.

– Значыць, Макляўскі нейкім чынам пранюхаў пра аперацыю.

– Здаецца, так.

– Вось што, Аляксандр, – распарадзіўся начальнік, – сітуацыю са спіртам хай высвятляе твой намеснік, а ты хуценька пад'едзь да чатырнаццатага дома, што па вуліцы Міра. Таму двары ўзарвалі аўтамашыну "Міцубісі-Паджэра". Міліцыя з мясцовага аддзела ўжо працуе, але ты паглядзі тое, што нас тычыцца. Мне здаецца, там не проста крымінальныя разборкі, а канкрэтнае вымагальніцтва. І здаецца, што зноў след Макляўскага.

– Добра, Андрэевіч, пастараюся высветліць, што там і як, – Другач паклаў рацыю на сядзенне і павярнуўся да Жураўскага, свайго намесніка. – Афармляй дакументы на праверку груза, а я ў цэнтр горада. Машыну падарвалі.

Жураўскі адышоў да машыны, але хутка вярнуўся і спытаў.

– А кім замяніць хлопцаў у засадзе пад мостам рэчкі Обаль?

– А што, нікто не прыйшоў за схаванай зброяй? – здзівіўся Другач.

– Нікто. Боязна, там жа непадалёку гуляюць дзеці і могуць знайсці аўтамат, патроны, электрадэтанатары.

– Здымай нарад. Хай забіраюць зброю і ў аддзел. Разбяромся.

Другач сеў у аўтамашыну і выехаў з двара. Настрой сапсаваўся. Трэба як мага хутчэй "нейтралізаваць" Макляўскага.

3

У новай хаце, пабудаванай па заказе, усё было даведзена да ладу. Сёння, у суботу, можна было і не ехаць сюды, за дваццаць кіламетраў, каб падбіць некалькі дошак ліштвы на вокны. Гэтую работу можна было зрабіць і ў панядзелак, непасрэдна перад здачай дома гаспадару. Але Караблёў выбраў гэта месца і дзень знарок, каб сустрэцца з аператыўнікам, Аляксандрам Другачам.

Апошні месяц яму зноў не даваў жыцця Рыгор Макляўскі. Нахабны і самаўпэўнены, той амаль кожны дзень заяўляўся ў кацельню і гразіўся расправай.

Апошні раз Караблёў сказаў яму так:

– Ты дрэнна мяне ведаеш, Рыгор. Калі я ў калоніі не прыслужваў адміністрацыі, не быў у складзе так званай "отрицаловки", а больш працаваў ды маўчаў, гэта не азначае, што я быў згодзен з вашымі воўчымі законамі. Тым больш, гэта не азначае, што сёння ты можаш з мяне здзекавацца, што буду табе служыць.

Караблёву здавалася, што сэнс яго слоў самазваны "смотрящий" зразумеў добра. Але той яшчэ больш разззлаваўся і прыгразіў расправай.

Расправы над сабой Караблёў не баяўся. Але яму стала агідна ад таго нахабства злачынцы, якое не ведала межаў. Колькі часу Караблёў раздумваў, што рабіць далей і нарэшце напісаў заяву ў міжрайаддзел. З ім сустрэўся Аляксандр Другач, але з-за неадкладных турбот сустрэчу перанеслі на другі дзень.

"Жыгулёнак" Другача ён заўважыў здалёк, калі ён звярнуў з трасы на прасёлкавую дарогу. Караблёў сядзеў на ганку, калі машына пад'ехала, узняўся, пайшоў насустрач.

– Добры дзень, Аляксандр Міхайлавіч, – павітаўся ён, як толькі Другач выйшаў з машыны.

– Добры, – паціснуў яму руку Другач, і, глядзячы на пабудову, заўважыў: – Вы, аказваецца, яшчэ і прафесіянал у будаўніцтве.

– Які з мяне прафесіянал, – паціснуў плячыма Караблёў, – так, хіба што руку набіў. А так...

Другач прайшоўся каля сцяны, зірнуў у калідор і спытаў:

– А хто гаспадар гэтага дома?

– Нехта з райвыканкамаўскіх работнікаў.

– Хто? – Другач пачаў называць імёны чыноўнікаў.

Караблёў на гэта адказаў:

– Мне, Аляксандр Міхайлавіч, усё роўна, хто будуецца. Грошы плаціць за работу ў тэрмін, а астатняе...

– ...Астатняе хай разграбае той, каму гэта патрэбна. Так?

– Правільна, калі не жартуеце. Кожны павінен займацца тым, чым можа і жадае.

– Макляўскі таксама займаецца сваёй справай.

– Для гэтага вы ёсць, каб паставіць падобных Макляўскаму на месца.

Другач усміхнуўся, прысеў на дошку.

– А ўвогуле, што ён за чалавек Макляўскі?

– Выхваляка. Тужыцца, бярэ на сябе ношу, якую хоча панесці, але не можа...

– Можа не будзем доўга з ім валаводзіцца, – Другач паглядзеў на Караблёва, – аддайце яму грошы, якія ён патрабуе, а мы ўсё гэта запратакаліруем.

Караблёў задумаўся. Потым адказаў:

– Не. Такое мне не даруюць. Тым больш, што ўжо шмат хто ведае пра мае з ім не зусім добрыя адносіны.

– А інакш яго цяжка падлавіць. Злачынстваў ён зараз не здзяйсняе, а за тое, што лічыць сябе "смотрящим", у турму не садзяць. Няма такога закону. Між іншым, калі ўжо так, нашы дэпутаты яшчэ толькі думаюць, якім чынам прыцягваць да адказнасці арганізатараў злачынных груповак.

– Я ведаю, як зняць некарананую шапку самазванага "смотрящего", – сказаў Караблёў. – Макляўскі вярнуў украдзеную аўтамашыну прадпрымальніку (здаецца, яго прозвішча Мельнікаў) за ўзнагароду. Грошы прысвоіў. Браткі яму гэта не даруюць. Больш таго, як мне вядома, ён ужо не першы раз раскідвае грошы "общака" на свае патрэбы.

4

Высвятленне тайнага прысваення Макляўскім грошай, якія належалі для "сугрэву" асуджаным, пачалі прадстаўнікі абласной арганізаванай злачыннай групоўкі. Чорны "Мерседэс" на вялікай хуткасці шнураваў раённы гарадок уздоўж і ўпоперак. У Другача не было магчымасці прагледзець адрасы, куды прыязджалі прадстаўнікі крымінальнага "правасуддзя", але ён сумеў атрымаць звесткі пра тое, што крымінальныя "разборкі" з Макляўскім адбудуцца за сценамі гарадскога стадыёна.

За некалькі гадзін да збору ён расставіў байцоў атрада спецыяльнага прызначэння ў месцах, каб, калі што, можна было хутка заблакіраваць адыход крымінальнікаў. Сам жа замаскіраваўся ў прыдарожных кустах.

Чакаць "суда" над Макляўскім давялося не доўга. Спачатку на стадыёне з'явілася "Аўдзі". Машына паездзіла па полі кругамі і спынілася каля ўваходу. Праз некалькі хвілін на стадыён уехаў ужо вядомы Другачу "Мерседэс", а за імі "Опель" Макляўскага. З машын выйшла дзевяць чалавек. Другач паправіў навушнікі, каб выразна чуць гаворку прыезджых, лавіў у бінокль рух кожнага з іх.

Крыклівы Макляўскі даказваў сваю праўату:

– Ты, Хлыст, не разумееш мяне. Едзем да Храмога, хай ён рассудзіць. Ты ж паглядзі...

– Няма мне чаго пакуль глядзець, – адказваў субяседнік, – грошай я пакуль не бачу за машы ну.

– Грошы будуць, з дня на дзень.

– Але ты не павінен быў распараджацца імі, як сваімі. Гэта грошы "общака".

– Я і не разлічваў імі распараджацца, я проста ўклаў іх у справу.

– Не ведаю тваю справу, – незнаёмец грэбліва плюнуў на траву, – але тое, што ты асмеліўся залезці ў нашу кішэню сваёй бруднай лапай, гэта ўжо дае мне падставы адвергнуць цябе.

— Не рабі гэтага, Хлыст, ты не маеш права.

Незнаёмец наблізіўся да Макляўскага і прасіпеў у твар:

– Я маю права. Яго мне даў Храмы. Інакш я б тут не ашываўся цэлы дзень, не высвятляў у дзесяткаў людзей, што ты за жывёліна.

– Я жывёліна? – Макляўскі аж падскочыў на месцы. – Ты сам...

Другач не стаў слухаць далей бандыцкую разборку, націснуў клавішу рацыі і аддаў распараджэнне на захоп. І амаль адразу ж на стадыён з розных куткоў на вялікай хуткасці на некалькіх машынах з'ехаліся "амапаўцы". Яны імгненна паклалі злачынцаў на зямлю. Іх абшукалі, знайшлі рэвальвер і некалькі грамаў марыхуаны.

Назаўтра ў абласной прыватнай газеце быў надрукаваны матэрыял, у якім расказвалася, што "сходку" "братков" у райцэнтры Гарадок здаў міліцыі Макляўскі.

ЛІМ-ЧАСАПІС

# ВЫСТАЎКА НА РАДЗІМЕ

Мастак Аляксандр Пашкевіч жыве і працуе ў Маладзечне. Гэтаму прыгожаму гораду прысвяціў многія свае работы. Вось назвы толькі некаторых з іх — "У ваколіцах Маладзечна", "Жнівеньскі вечар у Маладзечне", "Пасля навальніцы. Маладзечна"... Відавочна, што ў творцы — свой асаблівы стыль, сваё ўласнае светабачанне.

Ужо болей як трыццаць гадоў удзельнічае мастак у выстаўках. Былі і персанальныя — у Мінску, Маладзечне, Гальшанах. Работы Аляксандра Пашкевіча захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага саюза мастакоў, Міністэрства культуры Расіі, у выставачным зале аб'яднання "Цэнтральны Дом мастака" ў Маскве, Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне, Нацыянальнай бібліятэцы г. Лондана (Англія), у прыватных зборах многіх калекцыянераў з самых розных краін свету.

А цяпер творчасць Аляксандра Пашкевіча прыйшла і на яго радзіму (нарадзіўся мастак у Мар'інай Горцы) – у раённым цэнтры Пухавіцкага краю адкрылася персанальная выстаўка земляка. А месцам для прэзентацыі творчасці таленавітага майстра сталася мастацкая галерэя Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея. У дзень адкрыцця выстаўкі мастака віталі першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Леанід Крупец, старшыня Пухавіцкага райвыканкама Генадзь Шахлевіч, дырэктар краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч, загадчык аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама Яўген Сушко.

Прачулым і цёплым было выступленне і самога жывапісца. Прывёз землякам для знаёмства Аляксандр Пашкевіч і работы, якія навеяны краявідамі Пухаўшчыны, Мар'інай Горкі.

Мастацкая галерэя ў Мар'інай Горцы не шкадуе месца для адкрыцця творчасці землякоў. У экспазіцыі — скульптура Аляксандра Фінскага, палотны Барыса Рэпіна, вялікая калекцыя твораў Генрыха Бржазоўскага (ён партызаніў на Пухаўшчыне, пасля вайны ўвасобіў у сваіх карцінах многія пухавіцкія краявіды).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# КОРАТКА І ЁМІСТА

Выйшаў з друку даведнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Выданне ўяўляе сабою даволі ёмістую брашуру (каля 70 старонак), у якой апавядаецца пра гісторыю музея, коратка характарызуюцца тры ягоныя асноўныя раздзелы (беларускага мастацтва, заходнееўрапейскага, рускага). Чытач убачыць рэпрадукцыі твораў, што складаюць "залаты фонд" музея. Да кожнай рэпрадукцыі — невялікі артыкул пра сам твор і аўтара.

Гісторыя музея ніяк не спалучаецца з разуменнем "музейная цішыня". Яна такая ж драматычная, як і гісторыя беларускай дзяржавы. Трансфармацыя Дзяржаўнага мастацкага музея БССР у Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь — гэта адлюстраванне ў культурнай сферы трансфармацыі Беларускай ССР у суверэнную краіну.

Разам з тым удумлівы чытач адчуе, што культура не мае межаў, што ў нашым мастацтве так ці інакш праявілася ўсё тое вартае, што было ў еўрапейскім і сусветным мастацтве.

Аўтары артыкулаў В. Вайцэхоўская, Н. Калашнік, Т. Карандашава, А. Карпенка, Н. Усава. Агульная рэдакцыя І. Паньшынай. Наклад — 500 асобнікаў. Мова выдання — руская. Гэта, так бы мовіць, пробны каменьчык. Выпусціць даведнік на дзяржаўнай і англійскай мовах.

Спонсар выдання кампанія British American Tobacco. Дарэчы, дзякуючы свайму спонсару, Нацыянальны мастацкі музей набыў новыя вітрыны, якія значна пашыраюць магчымасці экспанавання твораў дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

Прэзентацыя даведніка была адначасова і прэзентацыяй новага абсталявання для залаў музея.

**П. В.**

МЕРКАВАННЕ

***Нядаўна спыніў існаванне улюбёны мінскімі кінаманамі "Фестываль аднаго фільма". Яго арганізатару — "Маладзёжнай студыі XXI" — УП "Кінавідэапракат" нечакана адмовіў у далейшай арэндзе кінатэатра "Кастрычнік". Асабіста мяне сітуацыя, якая склалася вакол "Фестывалю аднаго фільма", насцярожвае.***

# ВЫГНАННЕ З «РАЮ»

«Фестываль аднаго фільма" быў самым паспяховым праектам "Маладзёжнай студыі XXI". Маладыя кіношнікі мусілі самі зарабляць на сваё жыццё і сваё кіно. "Фестываль аднаго фільма" ствараў такую магчымасць. Па-першае, знаёміў сталічных кінаманаў (а такіх у Мінску тысячы) з найноўшымі культавымі фільмамі. Па-другое, на прыбытак (рэнтабельнасць складала 11%) можна было ўжо ў наступным годзе запускаць у вытворчасць мастацкія карціны. Карацей, не жыццё, а сапраўдны "рай"!

Напачатку вясны кіраўнік студыі С. Арцімовіч, аўтар ідэі фестывалю, арганізаваў рабочую групу, куды ўвайшлі Андрэй Расінскі, Віктар Янчанка, Алёна Калюнова, Ігар Сукманаў, Юрый Стаюнічаў, і паехаў дамаўляцца з маскоўскімі кінафірмамі аб пракаце. У сакавіку адбыўся першы паказ. І потым раз у два тыдні, у пятніцу, у кінатэатры "Кастрычнік", на сеансах у 18 і 20 гадзін дэманстраваліся фільмы — дацкі "Італьянскі для пачаткоўцаў", японскі "Каралеўская бітва" Кінджу Фусаку, бразільскі "Сука каханне" Алехандра Гансалеса Іньярыту, нямецкі "Рай" Тома Тыквера, амерыканскі "Сястрычка Бэці" Нейла Л. Б'юта. Кожная з гэтых карцін мела дзесятак — другі прызоў на прэстыжных кінафестывалях. Кожная вызначалася своеасаблівай стылістыкай постмадэрнізму пачатку XXI стагоддзя. Кожная пашырала ўяўленне пра той дзівосны і шалёны свет, у якім жывём, знаёміла з перспектыўнымі шляхамі развіцця сусветнага кінамастацтва. Каб не псаваць адносінаў з "Кінавідэапракатам", Сяргей Арцімовіч папярэдне ўзгадняў — ці не маюць яны намер пракатваць гэтыя карціны? Адказ быў адмоўны.



Я на ўласныя вочы бачыў перапоўненыя залы "Кастрычніка". Бачыў, як некаторыя знаходлівыя гледачы набывалі квіткі на сеанс за 3 тысячы рублёў, а потым перапрадавалі за 10 тысяч іншым ахвочым. І нават па такім шалёным кошце квіткі разыходзіліся імгненна. Я думаў — чаму тысячы людзей ідуць на фестываль? Пэўна, іх прываблівае мастацкі ўзровень. Бо калі меркаваць па тых фільмах, што месяцамі круцяць у мінскіх кінатэатрах, у свеце застаўся адзіны кінематограф — зроблены ў Галівудзе. Хаця, насамрэч, існуе процьма бліскучых карцін, створаных не па галівудскіх стандартах, а згодна традыцый сусветнай культуры. І праз разнастайнасць прадстаўленых карцін "Фестываль аднаго фільма" якраз даваў магчымасць гледачу рабіць свой мастацкі выбар, глядзець тое кіно, якое яму больш даспадобы.

Але адбылося выгнанне з "раю": "Кінавідэапракат" у верасні скасаваў праект "Фестывалю аднаго фільма", маўляў, як фінансава немэтазгодны. Праўда, каб падсаладзіць горыч кінаманаў, "Кінавідэапракат" запусціў новы праект. "Кінафармат 4х4". Маўляў, замест "Фестывалю аднаго фільма" з'явіцца ажно чатыры, штомесяц у розных кінатэатрах будуць паказваць культавае кіно. Дык і ў Мінгарвыканкаме абяцалі "Фестываль" выратаваць. Але пакуль канчатковае рашэнне яшчэ не прынята. Тым не менш, маладыя кінематаграфісты рыхтуюць новы паказ. "Фестываль" жа не толькі здабывае грошы на вытворчасць фільмаў "Студыі XXI", а яшчэ і спрыяе таму, каб у сталіцы стваралася атмасфера кінакультуры сусветнага ўзроўню. Тая атмасфера, без якой немагчымае плённае развіццё беларускага кінамастацтва...

**Ягор КОНЕЎ**

*НА ЗДЫМКУ: кадр з кінафільма "Рай", некалі паспяхова пракатанага "студыяй XXI".*

ВЫСТАВЫ

# І СКУЛЬПТАР, І ЖЫВАПІСЕЦ

Хоць і зачынены першы паверх Сучаснага музея скульптуры імя А. Бембеля для наведвальнікаў з-за рамонту, але юбілейную выставу з нагоды 80-годдзя аднаго са старэйшых скульптараў Беларусі, вучня Л. Глебава — Уладзіміра СЛІНЧАНКІ адкрылі на другім паверсе.

Мастак займаецца скульптурай з 1937 года. Спачатку вучыўся майстэрству ў студыі В. Волкава, у 1939 паступіў на курсы малады мастакоў у клас М. Керзіна. Вялікая Айчынная вайна не дала магчымасці скончыць курсы. Добраахвотнікам прайшоў пекла вайны, атрымаў 3 ордэны і 19 медалёў, а таму тэма патрыятызму, героікі з самага пачатку стала галоўнай у творчасці мастака У. Слінчанкі. На цяперашняй выставе прадстаўлены партрэты розных перыядаў. Яго твор "Баявая садружнасць" знаходзіцца ў Музеі Варшавы. Цікавая па сваёй кампазіцыі, лірыка-філасофскай падачай ваенных будняў работа "Май 1945 года". Вобраз жанчыны-маці і воіна ўвасоблены ў кампазіцыі "Беларуская мадонна".

На выставу прыйшлі вучні У. Слінчанкі, выкладчыкі, сябры. Старшыня Саюза мастакоў Беларусі Уладзімір Басалыга адзначыў, што вельмі здзіўлены, бо ўпершыню ўбачыў жывапісныя творы скульптара.

Да 80-годдзя з дня нараджэння У. Слінчанкі Саюз мастакоў узнагародзіў яго медалём "За поспехі ў выяўленчым мастацтве".

**Галіна ФАТЫХАВА**







**КАМЕНТАРЫЙ УП "КІНАВІДЭАПРАКАТ" МІНГАРВЫКАНКАМА ДА АРТЫКУЛА ЯГОРА КОНЕВА**

Апошняя справа, на наш погляд, ківаць на нейкія нездавальняючыя абставіны, а тым больш, шукаць вінаватых у асабістых праблемах. Аб якіх перашкодах паміж кінатворцамі і кінапракатам можа ісці гаворка, калі іх існаванне цалкам залежыць ад гледача! Дарэчы, у мінскім кінапракаце працуюць такія ж творчыя і неабыякавыя людзі, як і ў "Маладзёжнай студыі XXI".

Узнікае пытанне, калі сталічны кінапракат, як кажуць, "ляжаў на лапатках" і аб рамонце і мадэрнізацыі кінатэатраў можна было толькі марыць, чамусьці ніхто з тых, хто зараз быццам бы добра ведае, як трэба працаваць пракатчыкам, не прыходзіў з новымі праектамі, не прапанаваў свой удзел у адраджэнні такога важнага культурнага пласту, як кінаабслугоўванне гледачоў. А зараз, калі кінапракат, дзякуючы толькі ўласным намаганням і энтузіязму сваіх супрацоўнікаў з невялікай, як і ва ўсіх работнікаў культуры, зарплатай, нарэшце "становіцца на ногі", знаходзіцца многа ахвочых "паўдзельнічаць", як гавораць, у кінапрацэсе і ўнесці свой "уклад" ва ўжо зробленае. І хутчэй за ўсё робіцца гэта, як нам здаецца, у карыслівых мэтах, а не з нагоды выправіць "хібы" ў рабоце кінапракату.

На наш погляд, ніхто нікому не будзе перашкаджаць, калі кожны будзе займацца сваёй справай. Галоўная задача кінапракату, як мы разумеем, паказваць фільмы і ствараць спрыяльныя ўмовы для гледачоў, а "Маладзёжнай студыі XXI" — здымаць кінастужкі, для чаго яна і была створана год таму назад. І ў гэтай справе мы шчыра жадаем ёй поспехаў.

Што датычыцца Дагавору на паказ фільмаў "Маладзёжнай студыяй XXI" у кінатэатры "Кастрычнік", то ён быў прыпынены з-за грубага парушэння студыяй правоў на публічнае дэманстраванне кінастужак.

Наогул, калі чытачам будзе цікава, сталічны кінапракат заўсёды гатовы расказаць на старонках "ЛіМа" пра сваю працу і планы на будучыню.

**Васіль КОКТЫШ,**
**генеральны дырэктар**
**УП "Кінавідэапракат"**

# МУЖНЫ ТАЛЕНТ

***— Да малявання я прыахвоціўся ў раннім дзяцінстве, —*** **расказвае заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, сябра Беларускага Саюза мастакоў Яўген БУСЕЛ.** ***— Жылі мы тады ў вёсцы Міхайлаўка Светлагорскага раёна, дзе я і нарадзіўся. Вайна толькі што скончылася. Але яе "ўраджай" можна было збіраць на палях, у лясах і нават у вясковых падворках. Хтосьці падказаў мне, што ў нямецкіх снарадах у якасці пракладак выкарыстоўвалася папера. Вельмі ўжо закарцела дастаць яе з такога снарада. У сябра нічога не атрымалася, а ў мяне — выбухнула... Вось і застаўся без абедзвюх рук.***

**Мы гутарылі з Яўгенам Сямёнавічам у бацькоўскай хаце яго роднай вёскі, куды ён кожнае лета прыязджае адпачыць ад сталічнага тлуму. Адразу ж здзівіла, што Яўген Сямёнавіч вельмі не любіць, каб звярталі ўвагу на тое, якімі намаганнямі яму дастаецца ўсё, без чаго нельга абысціся ў штодзённым жыцці. Мабыць, таму і не прыехаў у Светлагорск на адкрыццё сваёй выставы ў карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава. А прадставіў ён 42 карціны розных жанраў. Тут і фальклорна стылізаваныя графічныя цыклы, напісаныя ў лубковым каларыце паводле беларускіх народных прымавак і жартоўных песень, а таксама партрэты Багдановіча, Купалы, акварэльныя пейзажы. Ёсць і творы, напісаныя алейнымі фарбамі. Некаторыя з тых, хто прыйшоў на ўрачыстае адкрыццё, адразу ж пазналі родныя мясціны. А на карціне "Палеская вясялуха" ўбачылі маці мастака.**

**Пейзажныя творы Я. Бусла з сапраўднай таленавітасцю перадаюць адчуванне прасторы і зменлівасць звычайнага для нас сціплага каларыту лясоў, палёў і нябёсаў. І робіць мастак гэта з такой шчымлівай шчырасцю, якой нельга не паверыць. Менавіта з такім адчуваннем успрымаюцца яго "Вёска Ілля", "Ветраны вечар", "Навальніца прайшла", "На пашы"...**

**І ці трэба казаць, што даўнія чытачы нашага сатырычнага часопіса "Вожык" добра памятаюць карыкатуры аднаго з найбольш яркіх мастакоў гэтага папулярнага выдання. Нагадаем, што ён — аўтар трох кніг "вожыкаўскіх" карыкатур.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,**
**дырэктар карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава**

**МУЗЫКА**



**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

# ДЗЕЦІ ЭЎТЭРПЫ

Між іншым, антычныя мысляры заўважылі, што чалавек, спрычынены да музыкі, — больш гарманічны і мудры. Глыбей разумее жыццё, адчувае тонкі космас душы. Музыкант — гэта і мастак, і паэт, і філосаф, і псіхолаг, і дыпламат. Ну, а калі проста — сумленны рамеснік? І для яго не шкада вялікай літары. Бо ніводная іншая прафесія не вымагае такога ранняга, карпатлівага і шматгадовага навучання, штодзённай шматгадзіннай пакуцёвай працы, да якой будучы музыкант нярэдка далучаецца гадоў з пяці ды самаахвярна працягвае ўдасканальвацца ва ўжо сталым узросце.

У сваім неабсяжным космасе вандруюць-сустракаюцца музыканты, і роўныя, і розныя, усіх часоў і народаў, далучаючы да сваіх стасункаў кожнага, хто хоча пачуць і можа зразумець іх мову.

Дзівосныя і дзіўныя дзеці Эўтэрпы, якія дзеляць з намі асалоду ад жывога выканання музыкі... Гэтым разам яны дазволілі публіцы адчуць



Яшчэ адна нядаўняя імпрэза, якая з аншлагам завяршылася ў Беларускай акадэміі музыкі: І Міжнародны конкурс імя І. Жыновіча. Дзіўным чынам дзень яго пачатку супаў з датай, ад якой шаноўная музычная ВНУ вядзе адлік сваіх гадоў. А іх ад 15 лістапада 1932-га набегла ўжо сем дзесяткаў. І ў юбілейным кантэксце Жыновічава імя, знакавае для беларускай музыкі, як і для нашай нацыянальнай культуры ўвогуле, успрымаецца адмыслова.

Дзякуючы гэтаму выдатнаму артысту і педагогу беларускія цымбалы, музычная візітоўка народа, якія доўгі час лічыліся традыцыйным атрыбутам выключна сялянскага побыту, занялі "свой пачэсны пасад" між акадэмічных інструментаў. Нацыянальная школа ігры на цымбалах набыла сусветнае прызнанне. Сёння гэты інструмент — і віртуозны саліст, якому падуладныя і высокая класіка, і авангардныя кампазітарскія эксперыменты. Гэта ўдзельнік самых розных ансамбляў і аснова Акадэмічнага народнага аркестра, ганараванага імем яго стваральніка — І. Жыновіча.

70 гадоў жыцця Беларускай акадэміі музыкі — як шматтомнае энцыклапедычнае выданне. Мноства старонак, безліч імёнаў, падзей... З гісторыі ўзраслі вядомыя сучасныя постаці: А. Багатыроў, Я. Гладкоў, М. Дрынеўскі, І. Лучанок, Ю. Гільдзюк, А. Мдзівані, М. Фінберг, В. Кузняцоў, Л. Каспорская, В. Скарабагатаў. Яе сённяшні дзень таксама — Т. Ніжнікава, В. Роўда, З. Качарская, М. Волкаў, Б. Нічкоў, Н. Аўраменка, У. Дарохін, В. Жывалеўскі, І. Алоўнікаў...

Зрэшты, колькі яшчэ імёнаў будзе названа падчас урачыстых цырымоній! Яны пройдуць з 10 па 12 снежня і завершацца юбілейным канцэртам. За пультам сімфанічнага аркестра "Маладая Беларусь" будзе таксама колішні студэнт, а сёння — рэктар акадэміі, прафесар М. Казінец.

Усе яны — былыя і новыя гадаванцы, кандыдаты ў студэнты ці старэйшыя педагогі, — жрацы галоўнага храма нашай музычнай навукі. Дзеці аднаго кантынента, пестуны адной музы.

***Еўропа, Эўтэрпа... Ці не праўда, падобныя словы? У напісанні, у маўленні. Дый паводле сэнсу — хіба не? Здаецца, нават без лексічнага падабенства ў слоўніку нашай свядомасці Еўропа ды Эўтэрпа апынуліся б урэшце побач. І зблізіліся б, утварыўшы сугучча.***

***Своеадметная часцінка Еўропы Беларусь, наша радавітае музычнае мастацтва, якое пестуе сама Эўтэрпа. Муза Старажытнай Грэцыі — апякунка музычных традыцый старасвецкай Еўропы. Вось і сугучча!***

подых музычнага Сусвету, дотык вечнасці, якая завецца "Бах". Быў вечар камернай музыкі, адзін з многіх. І адзін з лепшых. Яго рыхтавалі педагогі Беларускай акадэміі музыкі, кафедры альта, віяланчэлі, кантрабаса ды арфы пры падтрымцы калег іншай спецыялізацыі, з удзелам і тых музыкантаў, што яшчэ вучацца.



Сонечная радасць фіналу 6-га Брандэнбургскага канцэрта Ё. С. Баха — кульмінацыя ансамблевага грання, натхнёнага стваральніцай і лідэрам невялічкага аркестра — Л. Ластаўкай. Пачуццёвае sotto voce (напаўголасу) ды грацыёзная ігра рытмаў у бахаўскай Сюіце № 2 для альта сола — інтэрпрэтацыя У. Рылаткі. Імпрэсія флейты, арфы, альта ў Санаце К. Дэбюсі — вытанчаны прэзент інструментальнага трыо Л. Ласоцкай, В. Белазор ды Л. Ластаўкі, чый альт нязмушана пераключыўся на іншую стылёва-тэмбравую палітру...

І гэта толькі тры імгненні багатай праграмы, якая сабрала аншлаг на Залатой Горцы!



Потым зноў быў аншлаг — у зале Акадэміі музыкі, дзе сёлета прайшоў канцэрт-адкрыццё "Беларускай музычнай восені". Яго таксама можна прылучыць да лепшых у новым філарманічным сезоне. Музыканты Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі (усе, за, можа, малым выключэннем, выхаванцы БАМ) ды таленавітыя салісты — навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры ёй — гралі пад кіраўніцтвам дырыжора-дэбютанта, нядаўняга выпускніка акадэміі, І. Касцяхіна. Беларускія абранікі Эўтэрпы, сярод якіх юныя салісты — піяністка Г. Юхо, кларнетыст Р. Кушняроў, скрыпач Я. Казела ды віяланчэліст А. Дулаў, трымалі касмічную сувязь з Бетховенам, Веберам, Брухам, Сен-Сансам.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*НА ЗДЫМКАХ: народны артыст Беларусі, рэктар акадэміі М. КАЗІНЕЦ; віяланчэліст Аляксей АФАНАСЬЕЎ; сола на кантрабасе — Уладзімір ПУЛЕНКАЎ.*

**ФОТА А. МАЦЮША і з архіва "ЛіМа".**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

•

**З мэтай знаёмства са справамі ў абласных творчых арганізацыях праўленне Саюза беларускіх пісьменнікаў у складзе Б. Пятровіча, Э. Акуліна і М. Скоблы наведала Гародню і Віцебск.**

**У Гародні сумесна з В. Іпатавай і С. Законнікавым, а таксама пры ўдзеле сяброў абласнога аддзялення СБП — Юркі Голуба, Алены Руцкай, Ігара Жука была наладжана творчая сустрэча ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце.**

**Сустрэчы адбыліся таксама ў Гродзенскім каледжы мастацтваў , Гродзенскім аграрным універсітэце, а таксама ў мастацкай галерэі Зміцера Іваноўскага.**

**У Віцебску, разам з кіраўніком віцебскага аддзялення СБП Францам Сіўко і рэдактарам віцебскай "Народнай газеты" Сяргеем Рублеўскім былі наладжаны дзве творчыя сустрэчы: на філфаку Віцебскага педагагічнага універсітэта і ў Віцебскай абласной бібліятэцы. Размова ішла пра стан сучаснай літаратуры і жыццё Саюза беларускіх пісьменнікаў пасля нечарговага 14 з'езда.**

•

**У Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў адбылася творчая справаздача перад чытачамі Леаніда Дранько-Майсюка і Эдуарда Акуліна.**

**Як намеснік старшыні СБП Э. Акулін распавёў прысутным (настаўнікам- філолагам з усіх рэгіёнаў Беларусі) аб грамадскіх і творчых клопатах праўлення СБП і адказаў на шматлікія пытанні, звязаныя, як з дзейнасцю СБП, так і са станам сучаснай літаратуры, а таксама праблемамі выкладання беларускай мовы і літаратуры ў школе.**

**Леанід Дранько-Майсюк пазнаёміў слухачоў з творамі са сваёй новай кнігі "Паэтаграфічны раман".**

•

**Творчая сустрэча з удзелам народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча і Эдуарда Акуліна адбылася 14 лістапада ў Мінскім паліграфічным каледжы.**

**Прымеркаваная яна была да 120-годдзя з дня народзін Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

•

**"Тры грацыі" пад такім назовам 14 лістапада ў бібліятэцы Дома літаратара прайшла прэзентацыя новай кнігі паэзіі адразу трох паэтэс: Ніны Мацяш, Аўгінні Кавалюк і Антаніны Хатэнкі.**

**Галоўнай грацыяй на імпрэзе стала Антаніна Хатэнка. Пра яе творчасць гаварылі: С. Панізнік, Р. Сітніца, а таксама А. Кірвель, які і паспрыяў выхаду ў свет згаданага выдання.**

**Сама "Грацыя" чытала свае вершы. Ушанавалі А. Хатэнку і вядомыя паэты-барды: Эдуард Акулін і Алесь Камоцкі.**

**Лірычны настрой вечарыны падтрымліваў фолькгурт "Госьціца", з ягонай апякункай — Ларысай Сімаковіч.**

**Вёў імпрэзу намеснік старшыні СБП, паэт Міхась Скобла.**

•

**Гадавіна з дня смерці Максіма Лужаніна была адзначана вечарынай памяці ў Дзяржаўным музеі Янкі Купалы. Успамінамі пра паэта падзяліліся сябры сям'і — Мая Кляшторная і пляменніца Янкі Купалы Ядвіга Раманоўская, пісьменнікі Аляксей Слесарэнка, Уладзімір Паўлаў, Віктар Шніп і Людміла Рублеўская.**

**Ад кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў на вечарыне-рэквіеме выступіў паэт Міхась Скобла.**

**Н. К.**

## ПАЭЗІЯ

**Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**



# «ХАЙ РАСТУЦЬ БЯРОЗЫ...»

### ФАНТАСМАГОРЫЯ

*Са слупамі шэрага пылу*
*Вецер бег па мёртвай зямлі,*
*І на ўсход з імглы небасхілу*
*Здані попельных хмар плылі.*

*Высах пот і прасохлі слёзы,*
*І сухой зрабілася кроў...*
*На дарогах толькі абозы*
*Мройна-шэрых пыльных слупоў.*

*Ды растаў на вяршынях горных*
*Снег стагоддзяў, заліўшы дол.*
*Белай парай у хмарах чорных*
*Ён фантанамі б'е вакол.*

*Прашумела навала глуха,*
*І, нібы пясок на зубах,*
*Ёй пярун адгукнуўся суха —*
*І пабег струмень па ярах.*

*Ён, разбавіўшы пот і слёзы,*
*Напаіў сухую зямлю.*
*Бог сказаў: "Хай растуць бярозы!*
*Я траву пад іх пасцялю..."*

*І тады на пустэльні мёртвай*
*Адчынілася брама ў рай:*
*З раю выйдзе кожны чацвёрты*
*І адродзіць свой родны край.*

### БЕЛАРУСКІ МАТЫЎ

Ох, прыйшоў ка мне Цімох, ох, ох!
**Беларуская народная песня**

*Раптам захочацца роднае слова пачуць,*
*Водар яго непаўторны душою ўдыхнуць,*
*І да паліцы пацягнецца спешна рука...*
*З вечнай "Жалейкай" у засень ідзеш да стайка.*
*Лісце лілеяў гайдаецца: "Хто ж там ідзе?"*
*Плынь рабаціліцца, рыба пляскоча ў вадзе.*
*Што там за песня? І што там за голас такі?*
*Гэтую песню тут слухалі часта стайкі.*

*Ох ты мой Бог! Перасохлі яны за сялом.*
*Там салавей не спявае: "Цёх-цёх!*
*Дзе мой дом?"*
*Там, дзе ашчэрвала чорную пашчу дрыгва, —*
*Гола і пуста, расой не дыміцца трава.*
*Высах бярэзнік, дзе рэха гуляла ў гаях.*
*Косаў не менцяць, гуляе віхор па палях.*
*След ад сцяжыны да дзедаўскай хаткі пралёг.*
*Хтосьці прыйшоў да дзяўчыны...*
*Напэўна ж, Цімох.*

***

Я любитель старых тополей.
**М.Забалоцкі**

*Не сябрыны, шумных застолляў,*
*Да якіх не страчаны след, —*
*"Я аматар старых тапаляў", —*
*Не адзін паўторыць паэт.*

*Я аматар замкавых паркаў,*
*Пракаветных паркавых дрэў,*
*Дзе крумкач утрапёна каркаў*
*Перад тым, як палац гарэў.*

*Я аматар даўніх традыцый*
*У гаротным людскім жыцці.*
*Хлюпаціць капеж на Грамніцы —*
*Будзе ў маі трава расці.*

*Я аматар, прыхільнік даўні,*
*Традыцыйнага ўкладу жыцця...*
*Што народ у спадчыну даў мне —*
*Гэта вечная Кніга Быцця.*

### СПРОБА НАСЛЕДАВАННЯ МАКСІМУ ТАНКУ

*Ён доўга блукаў па лесе,*
*Калі пра любую марыў,*
*Нібы шукаў там нешта*
*Між ценяў спрадвечных дрэў.*
*Найболей любіў ён сосны,*
*На іх заглядаўся ўпотай*
*І слухаў на ўсходзе сонца*
*Лясны несціханы спеў.*

*А яшчэ даўжэй у самоце*
*Ён шукаў сяброўку жыцця,*
*Калі думаў пра дзень свой будучы,*
*Між бароў ды імшарын блудзячы.*
*Ён хацеў, каб яна разумная,*
*Як прырода сама, была:*
*Не дурная, панурая, сумная,*
*А сатканая з мрояў святла.*
*І не толькі разумная — зграбная,*
*Як чужая планета, прывабная,*
*Што спавіта прынаднай імглой,*
*І для іншых вачэй — непрыкметная*
*І прытым — маладая, прывэтная,*
*Як усмешка прыроды самой.*

*А знайшоў не сасну тонкаствольную —*
*Сухадрэвіну голую,*
*Як асенняя непагадзь, млосную*
*І, як сіверны вецер, злосную,*
*І патрэбную так, як лужына*
*Пасярод праходнага двара...*
*Ці такая была яму суджана*
*Ці такую нядоля дала?*

*А вы пытаеце,*
*ці ён шчаслівы*
*І задаволены сваім жыццём?*

***

*Яшчэ не позна, хоць і не рана:*
*Збажынка ў полі сасціравана.*

*Калі і позна, калі і рана —*
*З'явіцца можаш ты нечакана.*

*Што н е ч а к а н а — не ўсё прыемна.*
*А ўсё, што р а н а — не ўсё дарэмна.*

*А ўсё, што п о з н а — хіба патрэбна?*
*Калі і ўежна — не значыць хлебна.*

*Калі і ўлежна — не значыць лёгка,*
*Ды ты ўсё роўна ўздыхнеш з палёгкай:*

*Усё мінула — жыццё пражыта...*
*Вось толькі трэба пасеяць жыта.*

## УРАЖАННЕ

# НА СЛУЖБЕ Ў СЛОВА



У многіх паэтаў, апроч сябе, ёсць яшчэ з дзесятак не менш любімых ім вершатворцаў, рэдка — знаных сучаснікаў, часцей — увекавечаных нацыянальных класікаў ці сусветнавядомых імёнаў. Ёсць такі паэтычны рад і ў мяне. Як ні дзіўна, сярод іх ажно пяцёра нашых сучаснікаў, у тым ліку і Данута Бічэль.

Мабыць, тут не час і не месца ўспамінаць з чаго ўсчалася тая творчая прыхільнасць і любоў. Можна хіба толькі зазначыць "апорную" падставу гэтай неадольнай прыхільнасці — натуральнасць жыццятворчасці...

Бо ж не без дай прычыны мог напісаць такія, да прыкладу, радкі бескампрамісны і данельга шчыры, тады яшчэ крыштальна цвярозы паэт Анатоль Сыс:

*"Бязродная песня паэтава,*
*што птах са сляпымі вачыма.*
*Данута Бічэль-Загнетава —*
*якая паэтка айчынная!*
*І родам і племенем гожая.*
*Як рэчка — змялелы брод,*
*Айчыны сваёй радавод".*

Аднак жа тое пісалася пятнаццаць гадоў таму і шмат што змянілася за прамінулы час вакол і ўнутры гэтых двух паэтаў... Нязменнай засталася толькі сама Паэзія.

Данута Бічэль — хрысціянка. Шчырая каталічка. Гэтая Хрыстовая любоў перадалася і цеплілася ў ёй ад родавых каранёў, а цяпер, прайшоўшы праз церні ўласных пакутаў, вымкнула за край наканаванай долі...

*"можна пець як паэткі падлеткі*
*ды збірацца ў суполкі чародкі*
*можна блытаць жыццё і гульню*
*можна выйсці з духовай галечы*
*перад Богам высокім укленчыць*
*і згарэць перад Ім без агню."*

Гэтыя словы напаўняюць нас сэнсам будучага жыцця, як промні сонца ранішні паўзмрок сялянскай святліцы... Не думаю, што ў сённяшняй нашай паэзіі ёсць яшчэ такія вершы.

Менавіта ад іх займеў я высокі пасыл у сэрцы сваім пасля прачытання зборніка новых вершаў Дануты Бічэль "На белых аблоках сноў", што нядаўна пабачыў свет у выдавецтве "Про Хрысто". Гэта ўжо другая кніжка з "Бібліятэкі часопіса "Наша вера" (першай была "Гадара" Ірыны Жарнасек).

Слова трэба любіць і да Богам дадзенага таленту павагу мець. А яшчэ быць надзеленым звыш такім лёсам, якога й ворагу не пажадаеш, але й не аддасі нікому, бо не зможаш — і не таму, што на тое высокай волі не маеш, а таму, найперш, што ён, лёс гэты, ужо свой табе, кроўны, перажыты табой і шматкроць перажагнаны... Толькі прайшоўшы праз чысцец душы, выходзяць на свет Божы такія словы:

*"маё балота мой смутак*
*не плачу некалькі сутак*
*ні ў полі ні на балоце*
*ні з Богам ані ў ясноце*

*але іду прытуліцца*
*да той крацінай зямліцы*
*іду пагрэцца гасцінай*
*да цёплай норкі крацінай"*

Данута ж Бічэль у зборніку "На белых аблоках сноў" паўстае ў сваім новым паэтычным абліччы. Аднак — і абноўлены (мабыць, сказаць адроджаны ці, больш за тое, уваскрэслы было б у дадзеным выпадку святатацтвам)— паэт пазнавальны.

Што праўда, сустрэліся мне ў зборніку і два даўнія вершы-знаёмцы, але ўжо не ў той сваёй былой будзённай апратцы, а ў выходна-святочнай. Паэтка вырашыла тое-сёе падрэдагаваць і падправіць у іх паспалітай натуральнасці, аднак, пазнаў я іх і ўзрадаваўся ім менавіта па старой добрай памяці ("ня можа ўсяго чалавек пакласьці на словы: не насыціцца бачаньнем вока; не напоўніцца слуханьнем вуха")...

"Я веру ў сусветную супольнасць, веру ў талент, веру, што я на досвітку напішу яшчэ некалькі вершаў. Веру ў некалькі сумленных людзей, якія мяне не расчаравалі за доўгія гады, веру ў сваіх траіх унукаў", — сказала мне чатыры гады таму Данута Бічэль.

А ўжо сёння яе вера ўзносіцца да самай вяршыні мажлівага чалавечага досведу. І якімі ж прыгожымі, лёгкімі і светлымі словамі яна творыцца, бы дыханнем анёлаў:

*"словы духі сіроты*
*ад святой наіўноты*
*набіраюцца соладу*
*нібы мёду асоты*
*і мучацца ў цемрах стагоддзяў*
*аж пакуль па праменьчыку*
*нехта іх знойдзе"*

Тымжа, хто спрабуе здабыць паэзію праз формы і формулы, хацелася б сказаць: не шукайце ў паэзіі ісціны і пазнання ("бо пры многасьці мудрасьці множыцца й скруха; і хто памнажае спазнаньне, той памнажае і боль"), бо ўсе яе вышнія (а не знешнія!) праявы — ад прасвятлення душы... Іншае — ад лукавага і... сярмяжнай прозы...

Цяжкая падарожніку не дарога, а сам выбар Шляху трудны. І калі табе, мой любасны і адзінокі чытач, так непамысна ў тваёй зямной вандроўнай змозе, вазьмі гэтую гожую тонкую кніжыцу і чытай яе аднымі вуснамі ў вусцішным храме свайго жыцця, перагортваючы старонкі, як таямніцы ружанца, — пад Небам на Зямлі:

*"з малітвай цёплай на цёплай градцы*
*душа святлее як свечка ў храме*
*падай руку як буду вяртацца*
*па кладцы ў Край, скуль няма вяртання*
*як буду ехаць у свет бялюткі*
*ляцець на крылах Святога Духа*
*анёлак будзе іграць на лютні*
*і Ты тады пра мяне падумай"*

Зрэшты, Госпадзе, калі на тое будзе воля Твая, то і пра мяне таксама — падумай, і пра чытача нашага — помні...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

---

**Данута БІЧЭЛЬ** "На белых аблоках сноў" (вершы), Мінск, "Про Хрысто", 2002г.

## ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

***Ядвіга Юльянаўна Раманоўская — пляменніца Янкі Купалы. Яна любіла паэта, шанавала яго памяць, рабіла ўсё магчымае дзеля таго, каб вобраз песняра, як жывы ўставаў перад кожным з нас. З асаблівым энтузіязмам узялася яна за гэту справу, пасля смерці жонкі народнага паэта Уладзіславы Францаўны. На той час музей знаходзіўся ў веданні Акадэміі навук Беларусі, і віцэ-прэзідэнт Кандрат Крапіва прызначыў Я. Раманоўскую загадчыцай фондаў музея Янкі Купалы. Ядвіга Юльянаўна займалася сістэматызацыяй матэрыялаў, што паступалі ў музей, кансультавала супрацоўнікаў па многіх пытаннях з жыцця і творчасці вялікага паэта, пра якога яна ведала больш, чым хто-небудзь з яе каляжанак. Яна расшыфроўвала многія дакументы, фатаграфіі, запісы і арыгіналы, што засталіся пасля трагічнай смерці Янкі Купалы.***

***Цяпер, калі пляменніца Купалы мае за восемдзесят, яна вымушана была пакінуць працу ў музеі і пайсці на заслужаны адпачынак. Але Ядвіга Юльянаўна і зараз не парывае сувязі з музейнымі супрацоўнікамі.***

***Наш карэспандэнт Васіль МАКАРЭВІЧ сустрэўся з Ядвігай Юльяўнай РАМАНОЎСКАЙ, вынік гэтай сустрэчы мы і прапануем нашым чытачам.***

# З СУЗОР'Я РАДАВОДУ

**— Ядвіга Юльянаўна, пра жыццё-быццё бацькі Янкі Купалы Дамініка Луцэвіча, мы больш-менш дасведчаны. А вось пра маці паэта мы ведаем толькі тое, што Дамінік Луцэвіч у 1879 годзе ажаніўся на Бянігне Іванаўне Валасевіч, якая была родам з фальварка Няшота, што каля мястэчка Рубяжэвічы. Ці не маглі вы, будучы пляменніцай народнага песняра, вызначыць, хто яна была, як цяпер кажуць, па сацыяльным паходжанні, кім былі яе бацькі, расказаць пра яе радаслоўную падрабязна і дэталёва?**

— Дамінік Луцэвіч жыў каля фальварка Няшота. Казалі, што яшчэ нядаўна там стаяла невялікая хата. Там жыла вабная і прыгожая шатэнка, якую звалі Бянігнай Валасевіч. Яна нарадзілася ў фальварку Няшота ў сям'і засцянковай шляхты. Маці яе, Кацярына, з роду Шаблоўскіх. Што тычыцца бацькі, то мы, музейныя работнікі, пра яго ведаем больш, а пра родную маці надта мала. А Бянігна жыла ў фальварку да таго часу, пакуль не выйшла замуж за Дамініка Ануфрыевіча. Бянігна Іванаўна не толькі была прыгожай жанчынай, але і рупнай, і клапатлівай гаспадыняй, а таксама і шчырунняй-працаўніцай. Калі яны пабраліся, то пайшлі спачатку служыць да багатых гаспадароў, каб зарабіць грошай. Зробленыя грошы клалі ў банк, каб з часам узяць зямлю ў арэнду і на ёй працаваць. Такім чынам, яны займелі зямлю ў Прудзішчах, Селішчы, і пасля ў Бараўцах, Акопах. У Селішчы жылося нялёгка. У 1902 годзе да іх прыйшло няшчасце. Пасля цяжкай хваробы і хірургічнай аперацыі, якую зрабіў Дамініку Ануфрыевічу ў Мінску ўрач Шапіра, ён прыехаў дамоў. Яго прыйшла наведаць суседка Ваяводская. Яны сядзелі, гаварылі. А Бянігна Іванаўна завіхалася каля печы і рыхтавала частаванне. Яна спякла яечню, не ведаючы, відаць, што Дамініку Ануфрыевічу нельга яе было есці. Але ён разам з Ваяводскай з'еў гэтую яечню. І ў яго пасля цяжкой хірургічнай аперацыі пачаўся новы прыступ хваробы, які скончыўся заваротам кішок. Ад Селішча да Мінска было далёка, недзе каля сарака кіламетраў. Машын, як вядома, на той час не было, дапамогі ніхто не мог аказаць, — так ён і памёр. Маці мая расказвала, калі памёр бацька, Бянігна Іванаўна хадзіла як непрытомная. Яна не толькі шкадавала мужа, ёй было страшна застацца без гаспадара, з малымі дзецьмі. Але бяда ходзіць не адна, яна вядзе за сабой другую. У 1902 годзе ў Бянігны Іванаўны не стала ажно траіх малых дзетак, яны захварэлі на шкарлятыну. На адным тыдні пайшлі з жыцця Казя, Гэля і Сабіна. Вось такое здарылася гора за кароткі час. Так што Бянігне Іванаўне проста не хацелася ў Селішчы жыць. Да ўсяго пан Высоцкі адмовіў ёй у працягу кантракту на арэнду зямлі. Але яна была валявая жанчына. І пасля ўсяго бярэ ў арэнду Бараўцы, а затым Акопы. У Бянігны Іванаўны былі браты: Антон, Францішак, Міхал і сёстры: Садалія і Зоф'я. Зоф'я рана памерла, зусім маладой, пахавана каля Рубяжэвічаў на старых могілках. І ўсе астатнія таксама пахаваны на могілках у Рубяжэвічах.

**— Радаслоўная Бянігны Іванаўны, як ні дзіўна, не прасочваецца, як, напрыклад, у бацькі Купалы, Дамініка Ануфрыевіча, ажно да 1600 года.**

— Не! Паколькі Беларусь да 1939 года была падзелена на дзве часткі — Усходнюю і Заходнюю. Таму такіх матэрыялаў намі не знойдзена. І яны, магчыма, знаходзяцца дзе-небудзь у гістарычным архіве Вільні ці Варшавы. Але я не магу паехаць туды. Не тыя ўжо гады, здароўе не дазваляе. Але ўсё роўна трэба шукаць канцы.

**— Таму, прабачце, пра Бянігну Іванаўну мы ведаем толькі тое, што дзяўчынай да замужжа яна жыла ў Засценку Няшота і працавала на зямлі. Магчыма, да вас дайшлі звесткі, якая была сям'я, у якой яна жыла, колькі мела зямлі?**

— Такіх дакументаў музей не мае і ніхто пра гэта не ведае. Але жыла сям'я не бедна, належала да дробнай шляхты. Таму яе маці не хацела, каб яна выходзіла замуж за Дамініка Луцэвіча. Бо ён, практычна, быў з бядняцкай сям'і. І ў той жа час маці Бянігны Іванаўны Кацярына, калі будаваўся касцёл у Рубяжэвічах, яна, як быццам, дапамагала грашыма. І наватпадаравала касцёлу вельмі каштоўную ікону Маці Боскую Вастрабрамную, якая і цяпер знаходзіцца там. І як быццам бы давала грошы на амбону. Памерла Кацярына ў 1913 годзе. Пакуль яна жыла, то не дазваляла ні жаніцца сынам, ні выходзіць замуж дочкам. Яна хацела, каб яны жылі і працавалі на зямлі. Захаваўся дом, які яшчэ стаяў і пасля Айчыннай вайны. Недзе ў 1949 годзе па непаразуменні ці па нейкіх іншых прычынах, дом перанеслі пад школу ў вёску Русакі. А на старым фундаменце ўзвялі будынак пад праўленне калгаса. А праз некаторы час знеслі і новую забудову, дзе месцілася калгасная кантора. Такім чынам, на тым месцы, дзе стаяў дом бацькоў Бянігны Іванаўны, застаўся толькі разбураны падмурак. З маёй маці, Лідзіяй Дамінікаўнай, Купала ездзіў у Няшоту да бабулі пасля пастаноўкі "Паўлінкі" ў Радашковічах. А калі Беларусь была падзелена на Усходнюю і Заходнюю, і Няшота апынулася пад Польшчай, Купала вельмі сумаваў. У 1939 годзе ён паслаў туды ліст і прасіў адгукнуцца родных і блізкіх, напісаць, як і што там дзеецца і як пабачыцца, таму што Бянігна Іванаўна вельмі хоча сустрэцца, даведацца пра іх жыццё і лёс. Там жылі браты яе. Як не супраціўлялася Кацярына, яны займелі свае сем'і і сваіх дзяцей. Купала вельмі любіў сваю маці, заўсёды прасіў, каб яна што-небудзь расказала пра іх. Часта ён уключаў радыё і запрашаў маці паслухаць звесткі, якія ішлі з-за мяжы, а іншы раз перадавалі і службу ў касцёле і казаў, як добра, што ў іх маецца прыёмнік, вельмі прыемна павандраваць па свеце.







*НА ЗДЫМКАХ: Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ, 1963 г.; з Уладзіславай ЛУЦЭВІЧ на адкрыцці мемарыяльнай дошкі Янку Купалы ў Вільні, 1957 г.; з Максімам ТАНКАМ і Ежы ПУТРАМАНТАМ, 1962 г.;*

**ФОТА З СЯМЕЙНАГА АРХІВА**

**— Ядвіга Юльянаўна, вось такое да вас далікатнае пытанне: вы гаворыце, што бацькі Бянігны Іванаўны жылі бязбедна, і ўсё ж, калі Дамінік Ануфрыевіч жаніўся на ёй, яны вымушаны былі пайсці да суседняга гаспадара-багацея і працаваць на яго? Чаму так адбылося?**

— Таму што, як я ўжо казала, маці Бянігны Іванаўны не хацелася дзяліць зямлю. Яна была супраць таго, каб сыны жаніліся, а дочкі выходзілі замуж і дзялілі паміж сабой зямлю... Як там ні было, а зямля была падзелена паміж сынамі. А што да Франака, які быў паляўнічым, бо меў задышку і не мог абрабляць зямлю сам, то ён здаваў яе ў арэнду.

**— А колькі валок было ў кожнага нашчадка той надзвычай ашчаднай Кацярыны, хаця, магчыма, мы не маем права яе папракаць?**

— Не ведаю, не магу нічога пэўнага сказаць пра гэты факт. Трэба звяртацца ў архівы, шукаць адпаведныя дакументы. Мяне гэта цікавіць і хвалюе. Радавод бацькі Купалы больш распрацаваны. Зараз я займаюся радаводам маці Купалы. Хацелася б аднавіць сувязь пакаленняў. Але прайшло шмат часу, і гэта не так проста зрабіць.

**— Хацелася б удакладніць, чаму ў маці Купалы было такое імя — Бянігна? Пра што гэта гаворыць і сведчыць? Пра яе шляхецкае паходжанне ці пра нешта іншае?**

— Цяпер такія імёны амаль што нідзе не сустракаюцца. А між тым, многія даследчыкі пісалі і называлі маці Купалы — Бянігда. Але з метрычнай выпіскі, якую ўдалося адшукаць у касцельных кнігах Радашковіцкага касцёла аб жыхарах Вязанкі, маці Купалы звалі — Бянігна. А хроснымі бацькамі былі Алімпія Замбжыцкая і Банцарэвіч.

**— Прозвішчы — каталіцкія. Хто яны былі: шляхціцы альбо звычайныя сяляне?**

— Замбжыцкая была жонкай таго Замбжыцкага, якому належала Вязынка. А што тычыцца Банцарэвіча, то яго паходжанне пакуль што не даследавана. Можа, ён быў з радні ці ліку добра знаёмых, альбо прыяцель сям'і. Але ў касцельным запісу бачна, што ў ім запісана імя маці Купалы — Бянігна. Вось так трэба і пісаць у даследчых і ўсіх астатніх працах і матэрыялах.

**— Як усё-такі склаўся ўвогуле лёс Бянігны Іванаўны?**

— Мне хочацца расказаць пра маці Купалы ў той час, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Я жыла ў Беластоку. Туды мой муж быў накіраваны на працу. У Беластоку нарадзілася ў мяне дачушка Жанна. Калі пачалася вайна, ёй было ўсяго тры месяцы. З ёй мне і давялося эвакуіравацца, а больш дакладна, уцякаць з Беластока. Дабралася я да Мінска. З вакзала пазваніла дзядзьку Янку. З Уладзіславай Францаўнай паплакалі па тэлефоне. А потым яна сказала: "Я пазаву да тэлефона дзядзьку Янку". Дзядзька Янка, Янка Купала, запытаўся: "Дзе ты знаходзішся? Я мог бы за табою прыслаць машыну, ты ж сама бачыш, што робіцца ў Мінску". А Мінск ужо гарэў. І ён зноў пытае: "Адкуль ты звоніш?" Адказваю, што еду ў цягніку, зайшла да начальніка вакзала і папрасіла дазволу пазваніць вам, дзядзька Янка. Ён зацікавіўся: "А дзе дзіця?" Я кажу: "У вагоне", "А куды ж вас павязуць?" — "Кудысьці ў бок Масквы". — "Ну дык глядзі дзіцяці і едзь, таму што ў горадзе вельмі небяспечна. Горад увесь у агні. І я таксама думаю выехаць з Мінска". Я села ў цягнік і паехала разам з дачкой. Нічога я не ведала пра далейшы лёс Купалы. Але, калі я прыехала спачатку ў Калугу, потым дабралася да Тулы, а ўслед за гэтым і да Масквы, і пасялілася ў родных мужа, што жылі пад Масквой, то званіла кожны дзень у Беларускае пастпрэдства, якое знаходзілася ў Маскве, і пыталася, хто з беларускіх пісьменнікаў прыехаў у сталіцу? Дзесьці на працягу тыдня я званіла. Нарэшце мне кажуць: прыехаў Янка Купала з жонкай.

**— Цікава, чаму Купала не ўзяў з сабой маці, Бянігну Іванаўну. Месца для яе ў легкавіку відаць знайшлося б?**

— Па-першае, у Мінску засталася з Бянігнай Іванаўнай і сястра Ганна. Тут быў і пляменнік Уладыслаў Раманоўскі. І хатняя гаспадыня Соф'я Іванаўна Хадасевіч. Як бачыце, усіх у машыну ён забраць не мог. Тым больш, што трэба было б узяць і сям'ю шафёра. Купала аказаўся ў складаным становішчы. Ён суцяшаў і сябе, і ўсіх астатніх, што пакідае Мінск часова: некалькі дзён пабудзе на дачы ў Ляўках і вернецца назад. І тут ўсё, як кажуць, перавярнулася, пайшло вобаратам. І вярнуцца ў Мінск, разумееце, ён ужо не змог. У Ляўках таксама заставацца было небяспечна, і, як многія ведаюць, 3 чэрвеня дача згарэла. Але да трэцяга чэрвеня Купала заставаўся на дачы. У гэты час у Оршу, прыбыў і Якуб Колас са сваёй сям'ёй. Ён пазваніў на дачу, папрасіў дапамагчы, Уладзіслава Францаўна з шафёрам адразу паехала ў Оршу, каб забраць і сям'ю Коласа. Прывезлі ў Ляўкі. Купала паклапаціўся пра тое, каб знайсці машыну і адправіцьКоласа ў Маскву, дзе жылі родныя яго жонкі Марыі Дзмітрыеўны.

**— А што рабіла Бянігна Іванаўна, калі засталася ў Мінску?**

— З ёю было, разумееце, не так і лёгка. Майму брату Уладыславу, якога Купала вельмі любіў і шанаваў, як роднага сына, трэба было думаць, — што ж рабіць? Тым больш, што каля дома Купалы ўпала бомба, пасля чаго паадчыняліся аканіцы і дом пачаў гарэць. Перад гэтым у склеп сунулі падушкі і ўгаварылі Бянігну Іванаўну

**(Заканчэнне на стар. 15)**

ЗГАДКА

При канцы чэрвеня 1941-га гітлераўцы захапілі Мінск і адразу пачалі наводзіць свой "парадак". Нямецкі афіцэр з салдатамі накіраваліся да дому артыстаў па Старавіленскай вуліцы. Яны хуценька прыбеглі на кватэру арфісткі Яўгеніі Барысоўскай.

— Дзе ў вас хаваецца яўрэй? — спытаў афіцэр у жанчыны.

— Гэр афіцэр, у нас толькі восем кватэр, і нідзе яго няма, — прагучаў адказ на чыстай нямецкай мове.

Прайшло зусім мала часу, і раззлаваны гітлеравец зноў прыбег да Барысоўскай:

— Вы мне схлусілі, і толькі дзякуючы маёй дабрыні я вас не крану!

# І ГУЧАЛА АРФА...

А яна сядзела ні жывая, ні мёртвая. Яўгеніі Анатольеўне так хацелася выратаваць свайго суседа, дырыжора опернага тэатра Навума Балазоўскага, але не атрымалася... Сама цудам засталася жывая. І толькі дзякуючы добрай, душэўнай Марыі Кандратаўне Маскаленцы выжыла двухгадовая дачка загінуўшага дырыжора.

Здавалася, жыццё працягвалася, але Яўгенія Барысоўская доўга ачуньвала. Яна тады яшчэ не ведала, што ахвярай вайны стаў і яе муж Уладзімір Іванавіч, які памёр у блакадным Ленінградзе.

А ўсё пачыналася так выдатна! Дачка таленавітай петраградскай піяністкі, арфістка Яўгенія Полаўцава бліскуча скончыла Петраградскую кансерваторыю па класе знанага Альберта Цабеля. Тагачасныя газеты адзначалі, што выступленні маладой прыгожай арфісткі праходзілі з вялікім поспехам, яна паказвала выдатную тэхніку выканання, высокае музычнае майстэрства. Вось, напрыклад, што пісалі "Туркестанския ведамасці": "Спадарыня Полаўцава бліскуча валодае такім рэдкім нялёгкім для выканання інструментам, як арфа, здабывае з яе меладычныя, грацыёзныя гукі. Яна літаральна зачаравала слухачоў. Па-мастацку выкананая ёю прыгожая серэнада Г. Брага і піцыката з балета Л. Дэліба "Сільвія" даказалі, што гэтая артыстка — дастойная вучаніца свайго знанага настаўніка Цабеля".

Мікалай II аддзячыў яе за бліскучы талент тым, што падараваў ёй, выдатніцы Петраградскай кансерваторыі, унучцы слыннага ўдзельніка вайны 1812 года, цудоўную амерыканскую арфу. Акрамя выдатнай ігры на сваім любімым інструменце, Яўгенія захаплялася вакалам, з натхненнем спявала цыганскія рамансы. У маладосці яна вучылася спевам. У свой час закончыла і драматычныя курсы. Яе аднакурснікамі былі такія вядомыя артысты, як Васіль Тапаркоў, Мікалай Пятроў, былы мастацкі кіраўнік Маскоўскага тэатра Сатыры Валянцін Плучак.

Лёс Яўгеніі Анатольеўны меў шмат агульнага з лёсам гераіні рамана А. Талстога "Блуканне па пакутах". Трагедыя роднай краіны не магла не адбіцца на яе жыцці. Была страчана кватэра ў Петраградзе. Была разлука з малодшай сястрой...

Першым мужам Яўгеніі быў памешчык Варонежскай губерні Барысоўскі, якога яна кахала. Нягледзячы на тое, што ён рана памёр, Яўгенія Анатольеўна ўсё жыццё насіла яго прозвішча.



Перад Вялікай Айчыннай вайной Барысоўская прыехала ў Мінск і пачала працаваць арфісткай у аркестры тэатра оперы і балета Беларусі. Са школьных пасляваенных гадоў я памятаю, як грала на арфе яна, наша суседка. Нельга было не захапіцца пявучымі, капарытнымі гукамі яе інструмента: то мяккімі, пяшчотнымі, то меладычнымі, пералівістымі. У яе было нямала вучняў. Некаторыя граюць у аркестры.

Напярэдадні Вялікай Айчыннай у Мінск прыехаў на гастролі МХАТ. Подых вайны прымусіў артыстаў бегчы са сталіцы Беларусі. Музыкантка Маскоўскага тэатра Марыя Тарасава вымушана была пакінуць сваю арфу ў Мінску. Яе калега Яўгенія Барысоўская захавала гэты інструмент, наватграла на іму аркестры — у час вайны сіламі беларускіх артыстаў ставіліся аперэты. А калі Мінск быў вызвалены, Яўгенія Анатольеўна паведаміла Марыі Восіпаўне Тарасавай, што арфу яе яна захавала.

Усе, хто добра ведаў Яўгенію Анатольеўну, былі пад уражаннем ад яе дабрыні, шчырасці, гасціннасці. Трэба было бачыць, як цёпла, сардэчна прымала яна ў сябе пляменніцу М. Іпалітава-Іванава — выдатную спявачку Наталлю Шпілер, якая калісьці была прымадоннай Самарскай оперы, дзе ў аркестры грала арфістка Яўгенія Барысоўская!

У старасці Яўгенія Анатольеўна мусіла прадаць сваю цудоўную арфу, тым самым атрымаць сродкі для існавання. Дабрэйшай душы чалавек, яна давала грошы многім аркестрантам, хаця рэдка хто з іх вяртаў пазыку.

Усё жыццё яна любіла сабак. Памятаю яе сабаку Лёшку, які, здавалася, разумеў сваю гаспадыню з паўслова! Апошні ж сабака — Рыкі — быў са сваёй гаспадыняй да апошняга дня яе жыцця.

Яўгенія Анатольеўна займала невялікі пакойчык у трохпакаёвай кватэры. Удоме, пабудаваным яшчэ да вайны, не было гарачай вады і захавалася пячное ацяпленне. Усё жыццё спрытная, рухавая, яна старалася берагчы сястру з хворым сэрцам. То выгульвала сабаку, то выпраўлялася ў магазін па прадукты, то ў сарайчык па дровы. Аднойчы яна хуценька прыбегла на другі паверх з дровамі і раптам сказала сястры: "Туся, мне нешта блага". І тая параіла ёй прылегчы. Легла — і памерла. Ёй было 83. А сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння Яўгеніі Анатольеўны Барысоўскай.

**Вера КРОЗ**

*Фота дарэвалюцыйнага часу.*

# З СУЗОР'Я РАДАВОДУ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13)**

спусціцца туды, як у бамбасховішча. А калі дом загарэўся, яе давялося адтуль выбавіць. Трэба было шукаць домі нейкае выйсце. Карацей, пакінуць, шукаць больш спакойнае месца. Брат мой спусціў з ланцужка сабаку, які енчыў ад гарачыні, узяў веласіпед, пасадзіў на раму Бянігну Іванаўну — ён жа быў яшчэ школьнік. Так усім гуртам пакінулі наседжанае месца. Пасля ён казаў, што мог бы сесці на веласіпед і паехаць у тое месца, куды б яму захацелася. Але ён ведаў, што адны жанчыны нічога не зробяць у такой сітуацыі, і проста прападуць. Тым больш, што Бянігна Іванаўна была сабою поўная, ногі ў яе былі хворыя, ісці пехатой яна проста не магла. І так яны прабіраліся праз палаючы Мінск. Сабачка бег за пагарэльцамі, якія, фактычна, сталі бежанцамі. Ішлі яны праз тое месца, дзе цяпер размяшчаецца велазавод, пакуль не дапалі да вёскі Будзілава. У гэтай вёсцы яны і спыніліся. Іх прытуліла маці жонкі брата Паўліны Мядзёлкі. Сабака вярнуўся на сядзібу Купалы і згарэў.

**— І колькі часу яны там пражылі? Бо раднёй яны не былі і фактычна з'яўляліся для сваячкі Мядзёлкі чужымі і непатрэбнымі людзьмі!**

— Не надта доўга. Калі Мінск занялі фашысты і з'явіліся ў навакольных вёсках і сёлах, гаспадыня пачала непакоіцца, нервавацца. Чаму? Ды таму, што ў іх хаце знайшла сабе прыстанішча родная маці Купалы. А гэта пагражала для ўсёй сям'і не толькі непрыемнасцямі, але і сапраўднай бядой. Не дай Бог, фашысты даведаюцца пра гэта, — што тады будзе? Праўда, гаспадыня не гаварыла ні слова, паводзіла сябе стрымана, далікатна, але Бянігна Іванаўна бачыла, што ёй не па сабе, за што б яна ні бралася, усё валілася ў яе з рук. Таму яны падзякавалі гаспадыню за гасціннасць і прыстанішча і падаліся ў Мінск. Там яны і пасяліліся ў бараку па вуліцы Рабочай, дзе калісьці жыла мая сястра Уладзіслава, бо яе муж працаваў галоўным інжынерам электрасувязі горада Мінска. Але яны пакінулі свой пакойчык. Там знайшлі часовы прытулак Бянігна Іванаўна з усімі астатнімі сваімі сваякамі. Соф'я Іванаўна потым пайшла ад іх, брат мой Уладыслаў паехаў у Ляўкі. А маці Купалы Бянігна Іванаўна і яе дачка Ганна засталіся ў бараку. Жылося ім тамнялёгка, галодна. Грошай не мелі. І яны не маглі нічога пра сябе сказаць, ні папрасіць, бо з'яўляліся сямейнікамі Купалы. А Купала ў той час вельмі часта выступаў на радыё супраць фашыстаў, пісаў артыкулы, вершы, як, напрыклад, "Беларускім партызанам" і г.д. Таму яны не маглі што-небудзь гаварыць пра сябе. Да ўсяго трэба было хаваць Бянігну Іванаўну. У бараку таксама быў склеп. Ганна так-сяк спускала яе ў гэты склеп, а сама ішла ў лес, што стаяў за цяперашнім аўтазаводам, збірала ягады. Збярэ вядро ці кошык, а пасля прадасць на рынку, купіць малака. І так яна карміла Бянігну Іванаўну, ратавала ад галоднай смерці. Але ёй было ўжо даволі многа гадоў, яна хварэла на ногі. А таму ў сорак другім і памерла.

**— А як жа было з пахаваннем?**

— У гэтай роспачы Ганна Дамінікаўна не ведала, што і рабіць. Па-першае, не было дамавіны, не было навату што адзецьпябожчыцу. Але знайшліся добрыя людзі і дапамаглі пахаваць маці Купалы.

**— Магчыма, Ганна Дамінікаўна прызналася, што нябожчыца — гэта родная матуля слыннага беларускага паэта! Бо ўжо баяцца не мела ніякага сэнсу. Прычыніць зло нябожчыцы не мог аніхто, нават самы люты вораг ці здраднік!**

— Не ведаю, не магу сказаць: ні так, ні не! Навошта Богу грашыць! Але трэба думаць, тыя добрыя людзі, якія дапамагалі пахаваць Бянігну Іванаўну, нейкім чынам ведалі, каго выпраўляюць і праводзяць у апошні шлях.

**— Канечне, гэта містыка. Але ці гаварыла Ганна Дамінікаўна пра тое, што, магчыма, сэрцам і душой маці Купалы адчула, што не стала любага сына, а таму не вытрымала болю і пакут, і на другі дзень пасля яго скону сама адышла на той свет?**

— Пра гэта таксама Ганна Дамінікаўна нічога не казала. Бянігна Іванаўна ляжала апошнія дні маўклівая, засяроджаная, як бы паглыбленая ў сябе, ні пра што не гаварыла, часта ўпадала ў забыццё. Пасля як бы прачыналася, розумі памяць у яе зноў былі яснымі, празрыстымі, прасіла паказаць ёй фатакартку сына, і чамусьці яе вочы напаўняліся слязьмі. Прыціскаючы сынаву картку да грудзей, яна і заснула вечным сном.

**— А дзе, на якіх могілках яе пахавалі?**

— Яна пахавана на Вайсковых могілках, непадалёку ад царквы, пры дарожцы. Здаецца, у 1972 годзе Мінскі гарадскі Савет паставіў помнік на магіле маці Купалы. На ім маецца надпіс, узяты з верша Купалы: "Навучыўся я слоў беларускіх ад маці". Калі мы ходзім на гэтыя могілкі, то пасля наведвання магілы Купалы, абавязкова заходзім да апошняга прыстанішча Бянігны Іванаўны, кладзем кветкі, папраўляем магілку.

**— Ядвіга Юльянаўна, цікава такая дэталь: ці ведаў хто-небудзь з немцаў альбо паліцэйскіх, што ў Мінску жыве маці Купалы?**

— Не, не ведалі. Зрэшты, ніхто з іх не хваліўся, ні Бянігна Іванаўна, ні Ганна Дамінікаўна, што яны блізкая радня Купалы. А ў бараку, дзе яны пасяліліся, жылі розныя людзі: бежанцы, і тыя, мінчане, што страцілі жыллё. Але, як расказвалі, пасля пахавання маці Купалы, Ганна Дамінікаўна прасіла ў людзей прабачэння, што яна не можа зрабіць жалобны стол. Так што жалобнага стала не было.

**— Гэта і зразумела, ішла вайна, раскашавалі, галеча, бядоты. Было не да памінальных жалобных сталоў. Дзякуй вам, Ядвіга Юльянаўна, за аповед пра маці Купалы, Бянігну Іванану, яе няпростае жыццё і лёс.**

## НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Завяршыўся першы месяц новага вяшчальнага сезона, і слухачы паспелі ўжо ацаніць перамены. Што тычыцца праграм па літаратуры, то яны відавочныя. За гэты месяц гасцямі беларускага эфіру былі як вядомыя творцы, так і маладыя, ішла размова пра літаратурны працэс, сувязь пакаленняў, пра надзённыя праблемы ўзаемаадносін пісьменніка і чытача, ідзе знаёмства з шэдэўрамі сусветнай і айчыннай літаратуры.**

**На наступным тыдні цікавасць, як і ў ранейшыя, павінны выклікаць аўтарскія праграмы *Навума Гальпяровіча, Святланы Шалімы, Галіны Шаблінскай, Ірыны Шаўляковай*. Яны традыцыйна пачынаюцца ў *22.30*. У *"Браме"* госцем эфіру будзе паэт, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" *Уладзімір Марук (аўторак)*, у *"Палітры"* — паэт і мастак, выкладчык Рэспубліканскага каледжа мастацтваў *Рыгор Сітніца (чацвер)*, а *"Сентыментальнае паляванне"*, у *пятніцу* запросіць у студыю *Раісу Баравікову*. У суботу, *7 снежня*, у *"Жывым гуку"* — паэт *Сяргей Панізнік (пачатак у 16.15)*, а на працягу дня — навіны *"Літаратурнага праспекта"*.**

***"Кнігарня"* — у нядзелю, *8 снежня*. І кожны дзень пасля поўначы — *"Кароткія гісторыі"*. Прагучаць творы сусветнай і беларускай класікі.**

## КАНАЛ "КУЛЬТУРА"

***"Клуб дамаседаў"* — у панядзелак-аўторак, *2—3 снежня*, у *11.00* — чытанні рамана *У. Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні"*, у сераду ў гэты ж час — праграма *М. Прохар "Хранограф"*, у якой — прэзентацыя кнігі *В. Дубатоўкі "Архіпелаг Сапегаў"*, у чацвер — *"Натхненне" В. Макарэвіча*.**

***"Сімфонія дня"* ў аўторак, *3 снежня*. У *12.10* — *"Дзеяслоў" Л. Рублеўскай*, у *14.10* — *"Магія творчасці" З. Каваленкі* — выпуск да *90-годдзя пісьменніка П. Кавалёва*, у *14.40* — *"Сугалоссе" У. Дзюбы*, у праграме пойдзе гаворка пра пераклад навелы аўстрыйскага пісьменніка *С. Цвэйга "Нябачная калекцыя"*, у *15.00* — *"Ліставанні" І. Рыбіцкага*, у *"Паэтычным радыётэатры"* у *15.00* слухайце спектакль *"Спіць над лесам аблачынка"* паводле дзіцячых вершаў *Л. Пранчака*. І завершыць *"Літаратурны аўторак"* на канале "Культура" праграма *Г. Шаблінскай "Гаспода"* — пачатак у *16.00*. Госць студыі жывога эфіру — *малады літаратар, студэнтка Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры В. Кустава*.**

**Н. К.**



**Беларускае таварыства "Кніга" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы таварыства КУДРАЎЦАВАЙ Алене Васільеўне ў сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю бацькі Васіля Данілавіча ЛАПЦЁНКА**



## АФІША ЛІСТАПАДА-СНЕЖНЯ

### Нацыянальны акадэмічны тэатр балета

**29** — "Рамэо і Джульета", С. Пракоф'еў балет у 2-х дзеях
**1** — "Макбет", В. Кузняцоў балет у 1-й дзеі
"Балеро", М. Равель балет у 1-й дзеі
**4** — "Спячая прыгажуня", П. Чайкоўскі балет-феерыя ў 2-х дзеях
**6** — "Рамэо і Джульета", С. Пракоф'еў балет у 2-х дзеях

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы

**1 (раніца)** — "Коту ботах", Ц. Кюі опера ў 2-х дзеях
**3** — "Травіята", Д. Вердзі опера ў 3-х дзеях
**5** — "Турандот", Д. Пучыні опера ў 3-х дзеях. Канцэртнае выкананне
**7** — "Тоска", Д. Пучыні опера ў 3-х дзеях
**8** — "Лючыя дзі Ламермур", Г. Даніцэці опера ў 3-х дзеях

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Беларускі дзяржаўны музычны тэатр

**6, 7, 8** — "Юнона і Авось", А. Рыбнікаў (прэм'ера)

### Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы

**29** — "Чорная панна Нясвіжа", А. Дудараў містычная легенда пра каханне
**30 (раніца і вечар)** — "Трыстан ды Ізольда", С. Кавалёў рамантычная гісторыя ў 2-х дзеях
**1, 2** — "Ідылія", В. Дунін-Марцінкевіч пастараль у 2-х дзеях
**4, 5** — "Тутэйшыя", Я. Купала трагікамічныя сцэны ў 2-х частках
**6, 7** — "Згублены рай", А. Курэйчык (прэм'ера) драма ў 2-х дзеях

**Малая сцэна**

**30, 1** — "Дом, дзе спяць прыгажуні", Д. Хуан японская гісторыя ў 1-й дзеі
**6** — "Мы і яно", А. Аверчанка "машынальная" камедыя ў 1-й дзеі
**7** — "Муж для паэтэсы", А. Папова камедыя-імправізацыя ў 1-й дзеі

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага

**29** — "Калігула", А. Камю у стылі HARD
**30** — "Люці", А. Дудараў (прэм'ера) меладраматычны дэтэктыў у 2-х частках
**1** — "Ад'ютан-Ша Яго Вялікасці", І. Губач камедыя ў 2-х частках
**7** — "Свабодны шлюб", Д. Фо, Ф. Рамэ п'еса ў 2-х частках

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-ай, вячэрніх а 19-ай гадзіне**

### Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі

**29** — "Рычард", У. Шэкспір трагедыя
**30** — "Чарнобыльская малітва", С. Алексіевіч
**1, 8** — "Адэль", Я. Таганаў гісторыя кахання ў 2-х дзеях
**5, 6** — "Стомлены д'ябал", С. Кавалёў фантасмагорыя ў 2-х дзеях
**7** — "Рычард", У. Шэкспір трагедыя

### Сучасная драматургія краін свету на эксперыментальнай сцэне

**4** — "Понцій Пілат", А. Курэйчык (прэм'ера)

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

### Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр

**29** — "Трамвай "Жаданне", Т. Уільямс (прэм'ера) псіхалагічная драма ў 2-х дзеях
**30** — "Пігмаліён", Б. Шоу раман у 2-х дзеях
**1** — "Чорт, выстаўлены аслом" спектакль у 2-х дзеях па матывах сярэдневяковых французскіх эратычных фарсаў

**Пачатак спектакляў а 19-ай гадзіне**

### Рэспубліканскі тэатр юнага гледача

**29 ( а 16-ай гадзіне)** — "Дарога на Віфліем", С. Кавалёў
**30 (а 11-ай, 14-ай, 17-ай гадзіне)** — "Дарога на Віфліем", С. Кавалёў

### Беларускі дзяржаўны тэатр лялек

**29 (вечар)** — "Прыгоды бравага салдата Швейка", Я. Гашак камічнае прадстаўленне для дарослых у 2-х дзеях
**30 ( у 10.30 і 12.30)** — "Чырвоны Капялюш", Я. Шварц
**1 (у 10.30 і 12.30)** — "Кот у ботах", Г. Владычына
**3 ( а 11-ай і 13-ай гадзіне)** — "Кот у ботах", Г. Владычына
**4 (а 16-ай гадзіне)** — "Ганеле"
**7, 8 (а 11-ай і 13-ай гадзіне)** — "Гісторыя Снежнай Каралевы, якую распавядае яна сама", А. Ляляўскі

### Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"

**2 (а 18-ай гадзіне)** — "Нобіль — Барвяны ўладар", Ул. Караткевіч монаспектакль паводле аповесці "Сівая легенда"
**5 (а 19-ай гадзіне)** — "Дарога ў Вільню" Да 120-годдзя Якуба Коласа. Монаспектакль па аднайменным творы
**7 (а 11-ай гадзіне)** — "Маленькі анёлак", С. Кавалёў монаспектакль паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд

### Тэатр-студыя кінаакцёра

**30** — "Мілы хлус", Д. Кілці
**1** — "Мілы хлус", Д. Кілці
**2, 3** — "Айседора. Танец кахання" лірычная драма ў 1-й дзеі
**5, 6** — "Востраў нашай любові і надзеі", Г. Салоўскі праўдзівая казка для дарослых у 2-х дзеях
**7, 8** — "Філумена Мартурана" Э. дэ Філіпа камедыя ў 2-х дзеях

### Тэатр-студыя "Вольная сцэна" ( у памяшканні ПК МТЗ)

**29** — "Прынц Мамабук", А. Дудараў

## КІНО

### У ЛАБІРЫНЦЕ ПАЧУЦЦЯЎ

***2 снежня сталічны "Кінаклуб" разам з Пасольствам Францыі ў РБ распачне кінапаказ "Лабірынты пачуццяў" (анталогія французскага аўтарскага кіно). Усім тым, хто з лёгкасцю можа пагадзіцца з думкай французскага кінарэжысёра Абеля Ганса, што кіно дае чалавеку новае пачуццё: слухаць вачамі, а таксама прагне ўбачыць на экране такіх знакамітых акцёраў як Жан-Поль Бельмандо, Ганна Карына, Жан-Клод Брыялі, Ізабэль Юпэр раім абавязкова завітаць у кінатэатр "Перамога".***

**2 (панядзелак) — "Шалёны Пьеро" (1965г., рэж. Жан-Люк Гадар)**
**3 (аўторак) — "Калена Клэр" (1970г., рэж. Эрык Рамэр)**
**4 (серада) — "Ірма Веп" (1996г., рэж. Алівье Асайяс)**
**9 (панядзелак) — "Ніякіх скандалаў" (1999г., рэж. Бенуа Жако)**
**10 (аўторак) — "Чарговая хлусня" (2000г., рэж. Бенуа Жако)**
**11 (серада) — "Смяцяр, як і я" (2000г., рэж. Аньес Варда)**

*НА ЗДЫМКУ: актрыса Ганна КАРЫНА, жонка і "муза" ў 60—70-ыя гады славутага рэжысёра Жана-Люка Гадара.*



## МІНУЛАЕ Ў ПОСТАЦЯХ

**"Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага XVI-XVIII стагоддзяў" — этапная выстава ў ажыццяўленні міжнароднага, беларуска-летувіскага праекта. Больш за 50 твораў партрэтнага жывапісу прадставілі ў экспазіцыю Нацыянальны музей гісторыі і культуры РБ (у ягоных залах размешчана выстава), Нацыянальны мастацкі музей РБ, Музей Беларускага Палесся, Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. У выставе бяруць удзел Мінскі абласны краязнаўчы музей, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.**

**Многія з палотнаў раней не дэманстраваліся, (у прыватнасці, партрэт канцлера ВКЛ Льва Сапегі, большасць партрэтаў роду Завішаў). Значная колькасць партрэтаў належыць да тыпу, які ў мастацтвазнаўстве атрымаў назву "сармацкага". Гэта своеасаблівая з'ява партрэтнага жанру XVI-XVIII стагоддзяў. Партрэт рабіўся па вызначанай схеме — партрэтаваны мусіў быць у парадным адзенні, у атачэнні прадметаў, якія адлюстроўвалі не толькі і не столькі ягоны ўнутраны свет, характар, але найперш "класавую" прыналежнасць.**

**Выстава экспануецца ў трох залах, якія ўмоўна можна назваць "Каралеўская", "Зала Радзівілаў" і "Скарбніца". У "Каралеўскай" прадстаўлены партрэты каралёў Рэчы Паспалітай і вялікіх князёў Літоўскіх, асобаў духоўнага чыну і прадстаўнікоў родаў Завішаў і Вішнявецкіх. У суседняй "Зале Радзівілаў" знаходзяцца партрэты прадстаўнікоў гэтага роду.**

**Наста ДАЧКО**

## КАНЦЭРТЫ Ў СТАЛІЦЫ



### Зала камернай музыкі (пр. Ф. Скарыны, 44а)

**2 — Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах** Дзяржаўнага канцэртнага аркестра РБ. Мастацкія кіраўнікі Б. Нічкоў, Г. Гедыльтар. Творы Д. Расіні, А. Вівальдзі, Г. Ф. Гендэля, Ф. Куперэна, Я. Глебава, У. Солтана, Ю. Шадурскага ды інш.

**5 — Іграюць навучэнцы** Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі і студэнты акадэміі. Клас прафесара М. Крывашэева (кантрабас).

**7 — "Ліра"** — дзіцячы ўзорны хор СШ № 66 г. Мінска. Мастацкі кіраўнік А. Лацапнёва, канцэртмайстар І. Кавальчук. Творы беларускіх і замежных кампазітараў.

### Міжнародны джазавы фестываль

**29 — Дом афіцэраў**

Квартэт Сяргея Анцішына (гітара, Беларусь). Квінтэт Леры Гехнер (вакал, Германія—Расія).

**30 — Канцэртная зала "Мінск"**

Квартэт Томаша Станько (труба, Польшча).

**1 — К/з "Мінск"**

**Brazilian Project** Андрэя Кандакова (клавішныя, Расія—Бразілія).



## АНОНС

***ТЫМ, ХТО МОЖА*** апынуцца ***1 снежня ў старажытным цэнтры Полацка,*** раім наведаць Канцэртную залу Сафійскага сабора. Тут завяршаецца VII Міжнародны фестываль арганнай музыкі ***"ЗВАНЫ САФІІ"***. Акурат на першы дзень зімы, а 15-й гадзіне, замоўлены яго заключны канцэрт. На афішы — імя Крыстофа Хаўзера, госця з Германіі.

***

***"ДОБРЫ ВЕЧАР!"*** — скажуць знакамітыя ***"Харошкі"*** сваім гледачам ***4 снежня.*** Вечар абяцае быць сапраўды добрым, бо Беларускі дзяржаўны заслужаны харэаграфічны ансамбль пакажа ***на сцэне Палаца Рэспублікі*** лепшыя нумары са свайго залатога фонду. Таму і гучыць назва канцэртнай праграмы, як шчырае прывітанне: "Добры вечар!"

*НА ЗДЫМКУ: нязменны ўдзельнік Ансамбля драўляных духавых інструментаў заслужаны артыст Беларусі, прафесар Уладзімір БУДКЕВІЧ.*

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА**

**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ!**
**GAZETA_LIM@TUT. BY**




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-4404**
**літаратурнага жыцця — 284-4404**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-4404**
**паэзіі і прозы — 284-4404**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1642
Нумар падпісаны ў друк 28. 11. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2776

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12